Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4877) 1 ліпеня 2016 г.


Нацыянальнае хавацца ў кнігах? 4-5


З кніжных паліц Радзівілаў 11


Беларусь фальклорная 12


Вялікае бачыцца на адлегласці 14


Кінадакумент як летапіс 15

# Залежыць ад нас

## Беларусь, якую атрымалі ў спадчыну

**Краіны не паўстаюць з ніадкуль. Іх ствараюць людзі, пакаленні, звязаныя адным адчуваннем жыцця, прывязаныя да пэўнага кавалка зямлі. Ім пакідаюць адмеціны-сляды розныя эпохі. Іх сведкі з глыбінь стагоддзяў углядаюцца ў сучаснасць, апелююць да памяці тых, хто гаспадарыць цяпер на гэтай зямлі, што мае абрысы-межы, назву, дзяржаўнасць, каб вызначаць будучыню незалежна ні ад каго…**

**Залежыць будучыня ўсё ж ад людзей, што з'яўляюцца яе грамадзянамі. Ад тых, хто працуе ў полі і на заводзе, у школах і крамах, бібліятэках і банках, хто піша кнігі, мастацкія творы, фіксуе гэта на кінакамеру… Усе разам — стваральнікі агульнай культуры краіны, якая грунтуецца на трывалай гістарычнай глебе, што і дало магчымасць узрасці дзяржаўнасці. Гэта стала вялікім дасягненнем мінулага стагоддзя для беларускага народа. Тым дасягненнем, што з'яўляецца падставай для радасці і гонару, але нясе адказнасць і клопат: не расцярушыць, захаваць.**

**У гэтыя дні свята — чвэрць стагоддзя Незалежнасці — ёсць імкненне азірнуцца і падсумаваць, што зроблена ў самых розных галінах. Твар сучаснай краіны адлюстроўвае і мастацкая творчасць — у розных відах, што таксама дае магчымасць зразумець, як развіваецца Беларусь. Напрыклад, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі да свята прымеркаваная выстаўка «Сучасная Беларусь вачыма мастакоў».**

Працяг на стар. 13 ▶



*Уладзімір Стальмашонак «Юбілей», 1992 г.*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванне родным, блізкім і калегам народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага. Прэзідэнт адзначыў, што Расціславу Янкоўскі па праве заслужыў званне аднаго з найвялікшых акцёраў сучаснасці. «Найвышэйшы прафесіяналізм, тонкае адчуванне псіхалогіі персанажаў і літаратурнай асновы, прыроджаная інтэлігентнасць, унікальная манера ігры далі магчымасць стварыць яму ў тэатры і кіно сотні запамінальных роляў, якія сталі неад'емнай часткай скарбніцы беларускага мастацтва», — гаворыцца ў спачуванні. Кіраўнік дзяржавы таксама адзначыў, што творчасць Расціслава Янкоўскага атрымала ўсенародную любоў і павагу калег. «Адыход яго з жыцця — незаменная страта для нацыянальнай культуры», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Прэзідэнт Беларусі накіраваў спачуванне родным, блізкім і калегам народнага артыста Беларусі Сяргея Картэса. «Сяргей Альбертавіч унёс вялікі ўклад у развіццё нацыянальнай культуры. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў яго імя было цесна звязана з беларускай операй. Створаныя ім разнапланавыя творы вядомы як у Беларусі, так і далёка за яе межамі», — гаворыцца ў спачуванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што творчасць Сяргея Картэса стала сапраўдным прыкладам высокага мастацтва, якое заснавана на класічных прынцыпах і лепшых традыцыях айчыннай школы, арыенцірам для многіх пакаленняў беларускіх кампазітараў.

✔ Дзяржаўных узнагарод удастоены восем выкладчыкаў і кіраўнікоў беларускіх вышэйшых навучальных устаноў. Адпаведны ўказ падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. У ліку ўганараваных медалём Францыска Скарыны — загадчык кафедры беларускай і сусветнай мастацкай культуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вера Пракапцова.

✔ Беларуская вышыванка стане мастацкай дамінантай мерапрыемстваў да Дня Незалежнасці. Паводле начальніка ўпраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Мар'яны Нікалаевай, тэма вышыванкі з'яўляецца своеасаблівай візітнай карткай беларусаў і сімваламабярэгам нацыі. Гэта знойдзе адлюстраванне ў рэкламнай і друкаванай прадукцыі. Акрамя таго, напярэдадні Дня Незалежнасці ўпершыню будзе праведзена маладзёжнае свята «Дзень вышыванкі».

✔ У міжнародным конкурсе творчых работ на тэму «Беларуска-кітайскае супрацоўніцтва. Шаўковы шлях і індустрыяльны парк "Вялікі камень" маімі вачыма» канкурыруюць эсэ пра беларуска-кітайскае супрацоўніцтва ў прозе і вершах, паведамілі ў прэсслужбе Белтэлерадыёкампаніі. На афіцыйным сайце міжнароднага радыё «Беларусь» можна азнаёміцца з некаторымі дасланымі работамі. Творы на конкурс, які стартаваў 15 красавіка, даслалі не толькі аўтары з рэгіёнаў Беларусі або правінцый Кітая, але і з іншых краін, напрыклад, Польшчы.

✔ Помнік Аляксандру Неўскаму з жонкай — віцебскай князёўнай Аляксандрай і сынам Васілём урачыста адкрылі ў Віцебску падчас святкавання 1042-годдзя горада. Чатырохметровую бронзавую кампазіцыю ўсталявалі на плошчы Тысячагоддзя, побач з драўлянай царквой Аляксандра Неўскага, дзе ў будучыні плануецца пабудаваць палац шлюбаў. Над стварэннем помніка працавалі віцебскія скульптары Іван Казак і Аляксандр Гвоздзікаў, а таксама мінскі майстар Яўген Колчаў.

# Код культуры

## Галіна будзе існаваць паводле нормаў кодэкса

**Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб культуры — звод законаў, якія будзе рэгуляваць адносіны ў сферы культуры. Унікальны дакумент (нічога падобнага няма больш ні ў адной краіне свету) прынялі ў другім чытанні дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

Праект Кодэкса аб культуры быў вынесены на абмеркаванне грамадскасці летась, але прыняты ў Год культуры. Ён складаецца з агульнай і спецыяльнай частак, пяці раздзелаў, 257 артыкулаў.

Паняцце «культура» ў праекце кодэкса даецца праз два складнікі: сукупнасць культурных каштоўнасцей і культурная дзейнасць. Культура прызнаецца галоўным фактарам самабытнасці беларускага народа.

Кодэкс быў неабходны, каб сістэматызаваць заканадаўства ў сферы культуры, спрасціць яго прымяненне і палепшыць умовы для працы ўстаноў культуры і людзей, якія працуюць у гэтай сферы. Гэта галоўны дакумент, згодна з якім будзе ажыццяўляцца дзяржаўная культурная палітыка ў краіне, вызначацца задачы тых органаў, якія адказваюць за выкананне. Адзін з прынцыповых кірункаў — неабходнасць (і ўмовы) для прыцягнення культурным праектам дапамогі спонсараў і мецэнатаў. Але захоўваецца фінансаванне сферы культуры за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў.

Сістэмны дакумент разглядае самыя розныя кірункі творчай дзейнасці і праявы культуры: такія як ахова гісторыка-культурнай і археалагічнай спадчыны, бібліятэчная і музейная справа, народныя мастацкія рамёствы, кінематаграфічная дзейнасць, арганізацыя і правядзенне культурных мерапрыемстваў... Дакумент рэгулюе пытанні аховы археалагічнай спадчыны, прадугледжвае больш сур'ёзныя патрабаванні да стварэння музеяў, пашырае магчымасці тых арганізацый і асоб, што займаюцца народнымі рамёствамі, і нават прапісвае ўмовы вяртання ўваходных квіткоў на культурныя мерапрыемствы.

Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці вяла маніторынг сярод арганізацый, устаноў культуры, і профільных упраўленняў абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў. Праект кодэкса быў з самага пачатку размешчаны на сайце Міністэрства культуры, і, пачынаючы з этапу абмеркавання яго канцэпцыі, кожны грамадзянін Беларусі мог прапанаваць свае ідэі.

**Марыя АСІПЕНКА**

**Дэпутат Наталля Кучынская, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы, адзначыла:**

— На працягу некалькіх месяцаў пасля прыняцця ў першым чытанні праекта Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб культуры ў напружаным тэмпе ішла работа па ўдасканаленні дакумента. Паколькі сфера культуры рэгулюецца не толькі спецыяльным заканадаўствам, але па некаторых пытаннях — сумежным заканадаўствам, тэкст праекта кодэкса давялося ўзгадняць як з новымі актамі Кіраўніка дзяржавы, так і з законамі, прынятымі ў тым ліку на гэтай сесіі парламента.

Прыняцце Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб культуры на працяглы час здольна забяспечыць паступовае развіццё сферы культуры і якасную рэалізацыю правоў грамадзян. Упэўнена, што і сацыяльна-эканамічныя, і юрыдычныя наступствы прыняцця Кодэкса аб культуры пазітыўна адаб'юцца на нашым жыцці, эфектыўна запрацуюць сучасныя механізмы (арганізацыйныя, эканамічныя, прававыя) развіцця сферы, культурнага развіцця грамадства і асобы.

# Новымі шляхамі

**Абмеркаванне задач Саюза пісьменнікаў Беларусі па выкананні рашэнняў V Усебеларускага народнага сходу стала ключавым пытаннем чарговага пасяджэння прэзідыума СПБ.**

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец адзначыў: паколькі першы дзень сходу прыпаў якраз на дату пачатку Вялікай Айчыннай вайны, дэлегацыя ўдзельнікаў усклала кветкі да манумента Перамогі, ушанаваўшы памяць тых, хто ахвяраваў сваім жыццём дзеля міру.



Фота Кастуся Дробава.

*Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух і галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня» Зіновій Прыгодзіч перад пасяджэннем.*

Мікалай Чаргінец распавёў, што падчас сходу Кіраўнік дзяржавы дакладна акрэсліў сутнасць Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2016 — 2020 гады. Прычым немалая ўвага была нададзена пытанням, датычным духоўнасці, культуры.

Пасля кіраўнік СПБ засяродзіўся на надзённых пытаннях творчай арганізацыі. У прыватнасці, паведаміў, што з нагоды святкавання Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь пісьменнікі-ветэраны Вялікай Айчыннай вайны атрымаюць матэрыяльную дапамогу. Яшчэ адна цікавая вестка — будзе выдадзены новы тэлефонна-адрасны даведнік СПБ, дзе застануцца і імёны творцаў, якія пайшлі з жыцця. Не толькі для архіва, але і дзеля памяці.

Мікалай Чаргінец паведаміў, што пры канцы года плануецца правесці два з'езды: Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, прычым мяркуецца, што апошні пройдзе ў Маскве. У СПБ створаны аргкамітэты па падрыхтоўцы да з'езду і да Дня беларускага пісьменства.

Рыхтуюцца змяненні ў Статут СПБ. Тут пакуль не прапісаны ўмовы выключэння пісьменнікаў з творчай арганізацыі і аднаўлення ў яе складзе. «Трэба больш уважліва ставіцца да рэкамендацый і прыёму ў творчую арганізацыю, асабліва маладых аўтараў», — заклікаў Мікалай Іванавіч.

**Яна ЯВІЧ**

# Шанхайскія перакладчыкі ў Мінску

Сяброўства з Кітайскай Народнай Рэспублікай у Беларусі падтрымліваюць у вялікай меры праз культурнае, творчае супрацоўніцтва. Чарговы крок у гэтым рэчышчы — сустрэча з прадстаўнікамі Асацыяцыі перакладчыкаў Шанхая, што адбылася 27 чэрвеня ў Доме літаратара.

З мэтай узмацніць літаратурна-перакладчыцкія сувязі Мінск наведалі прэзідэнт асацыяцыі Тан Дзінхуа, а таксама намеснік генеральнага сакратара гэтай арганізацыі Лян Дзюцься і намеснік начальніка адміністрацыі Чэнь Лей. Гэтай сустрэчы папярэднічалі аналагічныя ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. Маючы магчымасць параўноўваць, спадар Тан Дзінхуа адзначыў клопат беларускай дзяржавы пра пісьменніцкую супольнасць.

Сустракалі гасцей першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў і сакратар СПБ Георгій Марчук, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота і галоўны рэдактар часопіса «Белая Вежа»Уладзімір Вялічка.

Георгій Марчук зрабіў для шанхайскіх калег лаканічны агляд працы Саюза пісьменнікаў Беларусі, распавёў пра яго склад, наяўныя ў Беларусі літаратурныя прэміі і іншыя рабочыя моманты. Спадар Тан Дзінхуа, у сваю чаргу, засяродзіў увагу на выдавецкай справе ў Кітаі: сёння выдаўцы неахвотна ідуць на рызыку, такім чынам, многія аўтары выдаюць кнігі за свой кошт. Гэта пэўным чынам адбіваецца і на Асацыяцыі перакладчыкаў. Так, недахопу ў энтузіястах, што гатовыя працаваць дзеля ўнёску ў справу міжнароднага творчага сяброўства, няма. І сучасныя творы беларускай літаратуры без цяжкасцей могуць загучаць па-кітайску. Аднак паўстае выдавецкае пытанне. Між тым беларускую літаратуру ў Кітаі ведаюць. Танк, Шамякін, Быкаў актыўна перакладаліся ў савецкі час; сёння вялікай папулярнасцю карыстаюцца кнігі Святланы Алексіевіч.

Магчыма, казкі сучасных беларускіх аўтараў зацікавяць кітайскага чытача і выдаўца? З такой думкай Георгія Марчука спадар Тан Дзінхуа пагадзіўся, так што можна казаць пра зараджэнне новага перакладніцкага праекта, які з беларускага боку падтрымае Выдавецкі дом «Звязда».

Прэзідэнт асацыяцыі падзякаваў таксама за нязменную ўвагу да кітайскай культуры. Знакі гэтай увагі прэзентавалі галоўныя рэдактары «Нёмана» і «Белай Вежы». Аляксей Чарота перадаў у дар гасцям кнігі «Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая», «Беларусь вачыма кітайцаў», асобныя выданні серыі «Светлыя знакі», прысвечанай паэзіі Паднябеснай, ды інш. Вялася размова пра багатую колькасць публікацый у перыёдыцы: так, асобны нумар «Нёмана» быў прысвечаны 60-годдзю ўтварэння КНР. Не меншая ўвага надаецца кітайскай культуры на старонках «Белай Вежы». Таксама адзначалася, што ўсё больш перакладчыкаў працуюць без мовы-пасрэдніка, якой звычайна была руская, але звяртаюцца наўпрост да арыгінальных тэкстаў. Згадалі і вядомага у літаратурных колах Лі Цзо, які працаваў і выдаваў свае творы ў Беларусі.

Практычная скіраванасць сустрэчы пакінула спадзеў, што неўзабаве можна чакаць яе не менш практычныя вынікі.

**Яўген БЕРКУТ**

# Дзве зоркі

**На 87-м годзе пайшоў з жыцця народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі. На 82-м — кампазітар Сяргей Картэс. Дзве страты. У адзін дзень…**



Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

## Вечнасць

*Не падзяліць яе пароўну аніколі,*
*Як цёмнае і светлае ў жыцці.*
*У цемры мы шукаем шлях да волі,*
*І дай нам бог да ісціны дайсці, —*
*Спазнаўшы шмат*
*пакут-выпрабаванняў,*
*З няволяй скрыжаваўшы*
*свае шпагі*
*І, можа, не адведаўшы адхлання,*
*Ў душы адчуўшы покліч*
*той адвагі,*
*Што нас пад сцягам*
*нашага сумлення*
*Пакліча на апошні вечны бой, —*
*Святло пабачыць*
*у канцы тунэля,*
*Адчуць зліццё — з планідаю,*
*з сабой…*



## Адданы драме

Драматычны тэатр і кіно — вось чаму прысвяціў усё жыццё акцёр Расціслаў Янкоўскі. Не так даўно адзначаны ўзнагародай на цырымоніі ўручэння расійскай нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска», атрымаць яе асабіста Расціслаў Іванавіч ужо не здолеў… Але, пакуль хапала жыццёвых і творчых сіл, іграў на сцэне.

Нацыянальнаму акадэмічнаму драматычнаму тэатру імя М. Горкага, дзе Расціслаў Янкоўскі служыў з 1957 года да апошніх дзён, ён прысвяціў фактычна ўсё сваё творчае жыццё.

Не толькі ў тэатры, але і ў кіно працягнуць жыць героі ды вобразы, увасобленыя найстарэйшым прадстаўніком творчай дынастыі Янкоўскіх, які да таго ж паўтара дзесяцігоддзя быў старшынёй Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». Як сімвалы служэння айчыннаму тэатральнаму і кінамастацтву — медаль і ордэн Францыска Скарыны, якімі таксама быў уганараваны.

Ці не ад продкаў захавалася ў асобе Янкоўскага высакароднасць? Яго бацька паходзіў са шляхціцаў. Дык вось адкуль непаўторны каларыт, укладзены артыстам у вобраз Станіслава Караля Радзівіла, галоўнага героя спектакля «Пане Каханку»! А ўвогуле, у сцэнічным дыяпазоне Расціслава Янкоўскага — персанажы з усяго зямнога шара. Невыпадкова ж яго ведалі і любілі ў многіх краінах былога СССР. Шэкспіраўскі Клаўдзій, мальераўскі Арган, Барон з п'есы М. Горкага «На дне», Вяршынін з «Трох сясцёр» Чэхава, Вышнеўскі з «Даходнага месца» А. Астроўскага… Увасобіў і хатынскую трагедыю — у «Вяртанні ў Хатынь» паводле Алеся Адамовіча. А летась тэатр імя Горкага прадставіў прэм'еру спектакля «Вечнасць на дваіх» па рамане Джазэфіны Лоўрэнс «Гады такія доўгія», дзе Янкоўскі сыграў галоўнага героя.

## Філасофія — праз музыку

Сяргей Картэс доўгі час узначальваў оперную трупу ў Вялікім тэатры Беларусі. Менавіта тады ён узняў айчыннае опернае мастацтва, папаўняючы скарбонку айчыннай музыкі. У тую пару, а былі гэта 90-я гады, тэатр шмат гастраліраваў за мяжой.

Вучыцца музыцы будучы кампазітар пачынаў у Аргенціне, у Буэнас-Айрэсе, дзе правёў першыя 20 год жыцця. У 1955-м разам з бацькамі быў накіраваны ў Мінск. Тут у 1962-м скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю імя А. В. Луначарскага па класе кампазіцыі прафесара А. В. Багатырова.

Так Сяргей Картэс, ураджэнец Чылі, стаў беларускім кампазітарам, стварыўшы араторыі на словы Янкі Купалы, вакальныя цыклы на вершы беларускіх паэтаў Анатоля Вярцінскага і Максіма Танка. У 1999 годзе атрымаў званне народнага артыста Беларусі. Аўтар опер «Джардана Бруна», «Матухна Кураж», «Візіт дамы», «Мядзведзь», «Юбілей».

Мовай музыкі Сяргей Картэс гаварыў пра агульначалавечае. Яго балет «Апошні Інка» быў пастаўлены за мяжой, а развагі пра пошук ідэнтычнасці знайшлі водгук і ў беларускім грамадстве.

Калектыў рэдакцыі смуткуе з нагоды страты артыстаў, чыя творчасць стала і застанецца народнай. Абодва пакінулі пасля сябе творы, вобразы (чытайце пра гэта на старонцы «Тэатр»). Але іх справы працягваюць дзеці, якія таксама працуюць у славу культуры.

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці акцёра тэатра і кіно, народнага артыста СССР, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Расціслава Іванавіча ЯНКОЎСКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці кампазітара, народнага артыста Рэспублікі Беларусь Сяргея Альбертавіча КАРТЭСА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Чытаем на канікулах

Шмат прэзентацый кніг беларускіх аўтараў ладзіцца ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». Так, у сталічнай публічнай бібліятэцы № 14 маладая пісьменніца Яна Явіч прадставіла свае кнігі для дзяцей «Уцёна хоча ведаць» і «Самыя кветкавыя сны». Краіна дзяцінства — гэта магічны свет, дзе жывуць казкі. Думаецца, што створаныя Янай Явіч казачныя персанажы, сярод якіх — і дапытлівае качанятка Уцёна, і дасціпны пацучок Крысавіца, і юная марсіянка Астраліна, палюбяцца чытачам.

Да імпрэзы, якая праходзіла яшчэ і ў межах рэспубліканскага патрыятычнага праекта *Кніга.BY*, далучыўся Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. «Калі вы любіце чытаць і праводзіце канікулы з кнігай у руках, то па-сапраўднаму шчаслівыя», — так другі сакратар Фрунзенскага раённага камітэта БРСМ Леанід Барушка звярнуўся да гасцей прэзентацыі — вучняў пачатковых класаў сталічнай СШ № 116, якую ў свой час скончыла і Яна Явіч. Гэтая прэзентацыя стала для аўтаркі асаблівa адметнай!

Неабыякавасць да роднай літаратуры ў чарговы раз засведчылі сустрэчы рагачоўскіх чытачоў са сталічнымі гасцямі — старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасём Пазняковым ды артыстам тэатра і кіно Сяргеем Краўцам. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» распавяла наша чытачка Тацццяна Макаранка.

У сярэднім школе № 6 горада Рагачова, дзе даўно ўжо замацавалася добрая традыцыя запрашаць у госці як вядомых, так і мясцовых літаратараў, Міхась Пазнякоў вёў шчыры дыялог з юнымі чытачамі. Дзеці паказалі добрае веданне творчасці беларускіх пісьменнікаў, з задавальненнем дэкламавалі вершы на роднай мове. Сяргей Кравец уразіў слухачоў сваімі песнямі, многія з якіх створаны на словы Міхася Пазнякова: прысутныя спявалі разам з аўтарамі! А яшчэ ўдзельнікі сустрэчы знаёміліся з новымі кнігамі, выпушчанымі айчынным выдавецтвам «Народная асвета». Тут выйшла кніга і рагачоўскага празаіка Міхася Слівы «Як кнігі дзяўчынку выхавалі» — казкі і апавяданні для малодшых школьнікаў, якую на імпрэзе прадставіў сам аўтар.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

## Дайджэст

• Федэрацыя яўрэйскіх абшчын паведаміла пра пачатак глабальнай работы — пераклад «Вавілонскага Талмуда» на рускую мову. Свяшчэнны зборнік тэкстаў будзе перакладзены ў поўным аб'ёме ўпершыню. Па папярэдніх ацэнках, праца зойме трыццаць гадоў. 3 ліпеня ў Маскве пройдзе прэзентацыя праекта, пасля чаго перакладчыкі пачнуць непасрэдную работу з тэкстамі. Паводле падання, свяшчэнная кніга «Талмуд» была перададзеная Богам Майсею на гары Сінай. Яе часта называюць «вуснай Торай», бо змест кнігі перадаваўся вусна цягам некалькіх пакаленняў.

• Кніга Васіля Быкава «Парадоксы жыцця», якую склалі творы, напісаныя ў апошнія гады пісьменніка, упершыню выйшла ў 2004 годзе, а цяпер стала даступная ў электронным фармаце, прычым бясплатна. Гэтаксама можна спампаваць усе тамы поўнага збору твораў Васіля Быкава. Для аматараў паслухаць добрую літаратуру з нядаўняга часу створаныя аўдыязапісы аповесцей «Бліндаж», «У тумане» і «Пакахай мяне, салдацік» (у тым ліку ў фарматах для *iPhone, iPod, iPad*).

• Унікальная выстаўка адкрылася ў Яраслаўскім музеі-запаведніку: тут выстаўленыя рарытэтныя выданні, аддрукаваныя ў тыпаграфіі Кіева-Пячэрскай лаўры сотні гадоў таму. Сёлета лаўра адзначае 400 гадоў. Супрацоўнікі музея паведамляюць, што некаторыя з выданняў захаваліся да нашых дзён у адзіным экземпляры. Усяго выстаўка прадстаўляе каля 130 кніг. Асаблівая ўвага надаецца гравюрам, выкананым майстрамі тых часоў. Пра вялікае майстэрства сведчаць і пераплёты кніг. Змест кніг богаслужэбны: малітвы, жыцці святых, сачыненні царкоўных іерархаў. Таксама выстаўляюцца Размовы Іаана Златавуста. Дапаўняюць экспазіцыю рэдкія абразы і іншыя прадметы, якія публіка пабачыць упершыню.

• Цэнтр Геці ў Лос-Анджэлесе размясціў у адкрытым доступе на сваім даследчым партале больш як 100 000 кніг, часопісаў і іншых матэрыялаў па гісторыі мастацтва і памежных дысцыплінах. Акцыя прымеркаваная да чацвёртай гадавіны цэнтра. Лічбавыя копіі даступныя для прагляду і чытання бясплатна, нават больш: іх можна спампаваць у фармаце PDF. Усе публікацыі партала Геці падтрымліваюць пошук па загалоўку, аўтары і ключавых словах. З навінак праекта найбольш прыкметныя «Воран» Алана Эдгара По з ілюстрацыямі Эдуарда Манэ і калекцыя, прысвечаная Васілію Кандзінскаму.

• Падчас правядзення кінафестывалю «Люстэрка» ў Іванаве (Расія) прэзентаванае выданне, якое сабрала дакументы з архіва Андрэя Таркоўскага. Укладальнікамі зборніка і аўтарамі некалькіх навуковых артыкулаў для яго сталі вучоныя-гісторыкі і філолагі, якія даўно займаюцца вывучэннем жыцця і творчасці славутага рэжысёра. Асаблівую каштоўнасць выданню надаюць змешчаныя ў ім стэнаграмы сустрэч Таркоўскага з гледачамі, яго размовы з калегамі. Галоўны сюрпрыз — чатырохгадзінны аўдыядыск, у запісах якога рэжысёр разважае пра таямніцы прафесіі і свае найбольш значныя фільмы.

## Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**3 ліпеня** — *на канцэртную праграму «Табе, Валожын родны» народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь» Валожынскага раённага цэнтра культуры (кіраўнік — Валянціна Гіруць-Русакевіч; г. Валожын, пл. Свабоды). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**5 ліпеня** — *на прэзентацыю кніг для юных чытачоў «Казкі жывуць побач» з удзелам пісьменніцы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой у публічную бібліятэку № 1 імя Л. Талстога (г. Мінск, вул. Маскоўская, 18). Пачатак у 10.30.*

**7 ліпеня** — *на творчую сустрэчу навучэнцаў Мінічыны ў школе «Со-Творчество» (секцыя «Проза»; г. Мінск, пл. Свабоды, 13, актавая зала). Пачатак у 11.00.*

# Сам-насам з Сусветам:

## нацыянальныя адметнасці ў літаратуры

**Убачыць за старонкамі кніг адлюстраванне нацыянальнага характару — няпростая задача нават для дасведчанага літаратуразнаўцы. Што для гэтага патрэбна? Пазнаёміцца з сучаснымі тэарэтычнымі падыходамі, вызначыць найбольш істотныя асобасныя рысы, уважліва перачытаць мастацкія творы... Айчынныя даследчыкі шукаюць у кнігах адметнасці беларуса адпаведна сваім навуковым зацікаўленням. Так, кандыдат філалагічных навук, дактарант Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Дзіна Дудзінская, да якой звярнуўся наш карэспандэнт, разважае над праблемай нацыянальнай экзістэнцыі не толькі як літаратуразнаўца, але і як культуролаг.**



*Дзіна Дудзінская.*

— Літаратура як ніякая іншая інтэлектуальная, культурная дзейнасць дазваляе схапіць, апісаць духоўны момант — той момант, калі чалавек застаецца сам-насам з Богам, — сцвярджае Дзіна Тадэвушаўна. — Калі засяродзіцца на духоўных якасцях асобы, мы выйдзем на панятцце экзістэнцыі. Для мяне ў гэтым сэнсе важны пошук новых сувязяў: напрыклад, у сінергетыцы гэта звязана з катэгорыямі незваротнасці, аўтакаталізу, немагчымасці, атрактару. Адкрыццё закону, заканамернасці для мяне відавочныя, пераканаўчыя, калі вынайдзены паўторнасці. Таму цікавіць перыяд адлігі і «вясковая проза», дзе герой рэгулярна (паўторна), зноў і зноў мог не хадзіць на партсходы, не хварэць на выкананне плана вытворчасці, дзе і маральных выпрабаванняў быццам не было, бо ён гуляў па лесе, жыў на хутары ці ў леснічоўцы. У творах «вясковай прозы» герой часта апынаўся адзін на адзін з Прыродай, Навакollем, космасам, універсумам, Быццём.

**— Чым адметныя персанажы беларускай літаратуры ў сітуацыі «сам-насам з Прыродай»?**

— Каб адказаць на гэта пытанне, я параўноўваю беларускіх і расійскіх герояў у творах суадноснага перыяду. Бо з супастаўленняў вынікае адрознае. Пачнём з айчыннай літаратуры. Віктар Карамазаў часта піша, што набліжанасць да прыроды робіць беларуса шчырым, прырода ёсць своеасаблівая «вакцына супраць хлусні». У прозе Анатоля Кудраўца, Івана Пташнікава, Алеся Жука, Віктара Казько, Міхася Стральцова герой аднаўляецца дзякуючы прыродзе, альбо з ім адбываецца значнае пераўтварэнне. Ён углядаецца ў неба і родныя прасторы, бачыць Белы шлях, зоры, чуе крык Апошняга жураўля — і асэнсоўвае сваё стаўленне да жыцця, радзімы, прыроды. У героя рускай літаратуры ў такіх самых сітуацыях судотыку са Светам узнікае стан выбару, пры якім праводзіцца рэвізія свайго каштоўнаснага ўнутранага складу. Яна ідзе ў адпаведнасці з традыцыяй, марал- і этыкай папярэдніх пакаленняў. Знойдзеныя аксіялагічныя памылкі выдаляюцца праз пакаянне. Адбываецца ачышчэнне ўнутранага свету ад этычна чужога, прыўнесенага мітуснёй жыцця і патурання самому сабе. Вялікую ролю маюць эсхаталагічныя матывы і памятанне пра смерць — як у творах «Каліна чырвоная» Васілія Шукшына, «Не страляйце ў белых лебедзяў» Барыса Васільева, «Царыба» Віктара Астаф'ева, «Развітанне з Мацёрай» Валянціна Распуціна. Такім чынам, герой беларускай прозы перад абліччам Сусвету апынаецца большым індывідуалістам, а герой расійскай прозы згадвае традыцыі і каштоўнасці свайго народа. Руская прырода і руская культура паўстаюць вельмі ўзаемазвязанымі.

**— Ці ў кожным мастацкім творы можна вылучыць, заўважыць нацыянальна адметнае?**

— Апошнім часам мяне зацікавілі творы на духоўную тэму: «Крыж міласэрнасці» Валянціны Коўтун і «Апошняя ахвяра свяшчэннага дуба» Вольгі Іпатавай. Першы хоць і прысвечаны найперш духоўнасці, праваслаўнасці, дае экзістэнцыяванне герaіні нацыянальна неафарбаваным. У Іпатавай жа — праз старонку: яна сутыкае паганскія каштоўнасці з праваслаўнымі ва ўнутраным свеце героя, і выбар яго адбываецца то праз пакуты, то праз зваб. Творы на адну тэму могуць атрымацца вельмі рознымі. Увогуле ж мне падаецца, што ў сучаснай беларускай літаратуры, у творчасці маладых аўтараў нацыянальнага менш, чым у іх папярэднікаў.

**— Магчыма, таму, што нацыянальна адметнага менш у нашым жыцці?**

— На маю думку, справа хутчэй у выбары сюжэтаў і галоўных герояў. Да таго ж, каб выявіць нацыянальнае, не хапае літаратурнай мовы. Каб стварыць беларускія каларыт і характар, іх трэба заўважаць. Такая ўласцівасць ёсць у Андрэя Федарэнкі, Уладзіміра Сцяпана, Анатоля Казлова — але выяўляецца не ва ўсіх творах...

**— У навуковых артыкулах вы неадночы звярталіся да творчасці В. Карамазава, А. Жука, І. Пташнікава, дзе вылучаюцца нацыянальныя адметнасці беларусаў. Нельга сказаць, што сучасныя беларусы зачытваюцца іх кнігамі. Як вы ставіцеся да гэтай праблемы?**

— Раней літаратура была працай духу, нават не душы. Праз літаратуру адбываліся пошукі Бога, таму над кнігай трэба было працаваць, яна вымагала сур'ёзнага стаўлення. Чытач атрымліваў задавальненне ад працы. Плаваеш ранкам у чыстай прахалоднай рацэ, абціраешся рушніком — і гэта задавальненне. Але з Захаду прыйшла звычка чытаць, каб атрымліваць задавальненне ад тэксту, задавальненне ад аскезы змянілася задавальненнем ад дазволенасці. Адпаведна, попытам пачала карыстацца іншая літаратура. Людзі найчасцей звяртаюцца да кніг Карамазава, Жука, Пташнікава, бо маюць прафесійныя мэты. Увогуле ж мы пакуль не расказваем моладзі, чым выдатныя гэтыя кнігі і навошта іх чытаць. А страта самаідэнтыфікацыі — вялікая небяспека. Нацыянальная ідэя можа ўвасабляцца праз культуру, праз дзейнасць кожнай творчай, крэатыўнай асобы — але адбываецца гэта далёка не заўсёды.

**— Што таксама сведчыць пра характар сучаснага беларуса...**

— Маеце на ўвазе «мая хата з краю»? Не зусім. Звярнуся да прыкладу з нядаўняга мінулага. У 1960 — 1980-я гады ў рускай літаратуры выразна выявіўся апазіцыйны кірунак: пісьменнікі-дысідэнты, самвыдат... А ў беларусаў не было апазіцыі да савецкай афіцыйнай літаратуры, творчасць многіх аўтараў была ёй проста альтэрнатыўнай. Я заўважыла ў рускага літаратуразнаўцы і культуролага Міхаіла Берга думку пра тое, што альтэрнатыва больш небяспечная за апазіцыю. І сапраўды, апазіцыя імкнецца раздзяляць грамадства, альтэрнатыва ж запрашае ісці быццам у тым жа кірунку, але іншым шляхам. Так узнікае канкурэнцыя, што мае больш шансаў перамагчы.

Альтэрнатыўнасць — тыповая беларуская рыса, але ў народзе яна азначана як «мая хата з краю». Гэты выраз утрымлівае адмоўную канатацыю, як і славутая талерантнасць, якая выяўляе абыякавасць, боязь сказаць нахабніку: «Спыніся!». Мне думаецца, што талерантнасць — татальна прыпісаны гістарычны штамп ва ўспрыняцці беларусаў кімсьці і — самімі сябе. Пазітыўны сінонім з нацыясцвярджальнай канатацыяй — гэта міралюбнасць. Міраноснасць, міратворнасцю займаецца і вылучаецца наша нацыя сярод трох усходніх і цяпер, у сённяшнім дні. Наша культура таксама сведчыць пра міралюбнасць беларусаў. Напрыклад, Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі — людзі, якія мелі абсалютна мірную спецыялізацыю, гэта не абаронцы, яны не блаславілі на бітву...

**— Якія падыходы да мастацкага тэксту дазваляюць вам выявіць адметныя духоўныя якасці беларусаў?**

— Вельмі часта нацыянальныя адметнасці адлюстроўваюцца пісьменнікам неўсвядомлена. Адпаведна, свой метад я б назвала нанатэхналогіяй у літаратуразнаўстве, у культуры, таму што ў аўтара, героя мяне цікавіць неўсвядомленае — не тое, што фармулюецца, а тое, што рухае. Увогуле ж нацыянальная ідэя не можа быць выказана да канца, бо яе галоўная частка знаходзіцца ў трансцэндэнтнасці — у трансцэндэнтным ядры звышкаштоўнасцей. Яна не мае канчатковага вызначэння і можа мець толькі слоган, лозунг: напрыклад, «людзьмі звацца», паводле Янкі Купалы.

Нацыянальная культура выступае матэрыяльным перманентным носьбітам нацыянальнай ідэі. Пісьменнікі, журналісты, грамадскія дзеячы ў розныя часы знаходзяць для яе новыя вызначэнні. Заклапочанасць лёсам нацыі была ўласцівая для Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага — творчасць гэтага пакалення найбольш прываблівае даследчыкаў. Але нацыянальна адметнае ярка выяўлена і ў прозе згаданых мною пісьменнікаў, якія плённа працавалі ў 70 — 80-я гады мінулага стагоддзя.

Хлеб, калодзеж, сонца, маці, сям'я (пералік агромністы) — гэта істотна для кожнай культуры, але стаўленне да калодзежа ў пустыні і ў краіне, дзе шмат рэк і азёр, будзе розным. Каштоўнасці ва ўсіх аднолькавыя, але маюць розныя пазіцыі. І нацыянальная адметнасць ёсць вынік асаблівай, уласцівай адно дадзенаму народу, арганізацыі элементаў досведу. Увага да нацыянальна адметнага ў літаратуры дапамагае чытачу адчуць далучанасць да свайго народа, прычыненасць да яго гістарычнага лёсу.




*Фота Кастуся Дробава.*

**Юлія ШПАКОВА**

# Чабаровы чай у Броўкі,

## спевы ў Барадуліна, тэатр у Быкава

**Яшчэ летась, у юбілейны для Петруся Броўкі год, музей пісьменніка задумаў вандроўку. На дзень народзінаў звычайна ходзяць у госці, так? Дык чаму б не наведацца ў Пуцілкавічы, да дому паэта? Аднак здзяйсненне задуманага адбылося толькі праз год, у 111-ы дзень народзінаў Пятра Усцінавіча. Праект «1.1.1» пайшоў далей: калі ўжо ехаць на Ушаччыну, то нельга прамінуць Барадуліна і Быкава. І ў нейкім сэнсе гэтая літаратурная вандроўка сталася маштабным (як па кіламетражы ды часе, так і па колькасці ўдзельнікаў) паходам у госці.**

### НАРОДНАЯ СЛАВА, НАРОДНЫ ПАЭТ

Раніца. Станцыя метро Маскоўская. Пакуль ты марыш пра вяртанне ў ложак, музейшчыкі бадзёра ўсміхаюцца. Наперадзе 200 з нечым кіламетраў пад сонцам, што ўсё гарачэе і гарачэе. Будзе і прыпынак — у Лепелі. Тэхнічны, як кажуць, але ён упісваецца ў агульную канцэпцыю падарожжа: сюды ў свой час перабралася з Пуцілкавіч сям'я Броўкі. Праўда, ненадоўга: матэрыяльная нястача змусіла іх вярнуцца ў родную вёску.

Першы пункт падарожжа — музей Народнай Славы імя Уладзіміра Лабанка. Тут, ва Ушачах, у час Вялікай Айчыннай быў цэнтр «партызанскай рэспублікі». У маі 1944-га ушацкія партызаны здзейснілі легендарны прарыў: разбілі блакаднае кола карнікаў і вывелі са смяротнага катла 15 000 мірных жыхароў. На месцы падзеі ў 1974 годзе адкрылі мемарыяльны комплекс «Прарыў». Яго мы таксама наведалі — пасля гасцявання ў Барадуліна. І тут справа не толькі ў турыстычнай цікаўнасці і ўшанаванні памяці. У межах комплексу знаходзяцца мемарыяльныя пліты з імёнамі загінулых падчас блакады і прарыву. Сярод іх — «Бородулин И. Г.», Іван Рыгоравіч, бацька народнага паэта, пра якога і пісалася «не выйдзеш ты і ў гэты раз мне спаткаць, паднесці рэчы…».

У самім музеі Народнай Славы для гасцей зладзілі экскурсію. Зброя, безліч партрэтаў, асабістыя рэчы ваенных герояў, друкаваныя рарытэты: агітплакаты, лістоўкі, газеты. Абавязковая для такой экспазіцыі друкавальная машынка. Карты-панарамы партызанскай рэспублікі. Словам, традыцыйная канцэпцыя для ваеннага музея. Як зазначыў нехта з вандроўнікаў, ушацкі музей падобны да філіяла музея Вялікай Айчыннай у Мінску. Сапраўды. Той жа прадметны набор, тая ж гнятлівая (а як інакш?..) атмасфера.

Аднак ёсць і ўнікальныя экспанаты. Прыкладам, кнігі з дарчымі подпісамі самога Лабанка. Альбо партызанская карцінная галерэя. Яна працавала ў 1942-1943 гадах сіламі мастакоў Мікалая Гуціева і Мікалая Абрыньбы. Пад галерэю была адведзеная асобная хатка. Няцяжка ўявіць, наколькі важнае было для партызан яе існаванне. Паводле дакументальнага фільма, які прадэманстравалі нам у музеі, найвышэйшай узнагародай для партызан быў партрэт, зроблены адным з іх мастакоў. Цікава, што адна з карцін Абрыньбы, «Выхад брыгады "Дубава" на заданне» 1943 года, моцна нагадвае карціну Пётры Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі робяць агляд паўстанцаў». Мастакі натхнялі «аднапалчан», беларускія героі натхнялі мастакоў.

Экскурсія скончылася — час для сюрпрызаў. Музей Броўкі прыехаў да калег не з пустымі рукамі: у дзень народзінаў свайго паэта яны прывезлі ва Ушачы новую, лічы, «са станка», выстаўку. «Пятрусь Броўка. Маё XX стагоддзе…» — такі сабе сціслы пераказ жыцця паэта.



*Адбіткі часу. Дом Барадуліна.*

*Фота Наталі Купрэвіч.*

Кожная з тэматычных частак — дзяцінства, юнацтва, ваенны час, творчасць, грамадская дзейнасць і інш. — мае за назву радок з твораў паэта («Гляджу на першы крок дзіцяці…», «На межы ўсе, на штурмы!» і г.д.). Ільвіная доля прыходзіцца на здымкі, так што выстаўка атрымалася «паказальная».

Яшчэ адзін сюрпрыз ад броўкаўцаў — фільм 1980 года, алічбаваны з архіўнай стужкі. Дырэктар музея Наталля Мізон падчас прэзентацыі зазначыла, што музей працягвае апрацоўку архіўных матэрыялаў.

Падчас афіцыйнай прывітальнай часткі выступілі прадстаўнікі мясцовых улад. Ганад Чарказян распавёў пра знаёмства з трыма героямі вандроўкі — Барадуліным, Броўкам і Быкавым, а Вольга Гулева, прадстаўнік музея гісторыі беларускай літаратуры, — пра дачу Быкава, якая адносна нядаўна стала музеем і куды ўсіх горача запрашаюць. Артыст Алег Вінярскі чытаў вершы Барадуліна, Алесь Камоцкі праспяваў колькі песен на словы паэта. Міністэрства культуры прадстаўляла Людміла Лебедзь. Дырэктар музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч таксама ўзяла слова.

Трэба сказаць, мінскія госці ва Ушачах не былі культагітатарамі. Тут і без чужой дапамогі памятаюць сваіх Народных: у кіназале музея — партрэты, у экспазіцыі — кнігі з аўтографамі.

### ВУЛІЦА БАРАДУЛІНА

Ёсць і вуліца Барадуліна. Праўда, сіламі самога Барадуліна. Яна мяжуе са Школьнай і ахоплівае дворык пры ушацкім доме паэта, куды мы і скіраваліся далей. Галіна Варатынская, сябар сям'і Барадуліных, і паэтэса Наталля Давыдзенка распавялі пра ушацкае жыццё паэта. Прыкладам, пра тое, што ён не звяртаўся па дапамогу да ўлад. Пра тое, як заўсёды імкнуўся сюды, да свайго яблыневага саду, да роднага дому ў цені вяза, які яны з бацькам пасадзілі да вайны. Да апошняга, пакуль былі сілы, Барадулін вяртаўся ва Ушачы.

У нас была ўнікальная магчымасць наведаць яго дом. Звычайная кухня (дзіўна, пахне вёскай, хоць печы ў доме няма). Кнігі, дзіцячыя малюнкі, жартаўлівыя прэзенты калег і прыхільнікаў



*Строга-музейнае і асабістае суседнічаюць у доме Быкава.*

творчасці. Абавязкова — абразы пад ручнікамі. Некалькі разоў сустракаецца Шаўчэнка: тут — мініяцюрны бюсцік, там — партрэт. Кнігі: збор дэтэктываў, тамы па гісторыі Беларусі, дзіцячыя кніжкі, паэзія, уласныя паэтычныя зборнікі. Паўсюль — дрэва. Партрэты бацькоў. Можна падняцца і на восьмы паверх (шыльдачка запазычаная, відаць, з выдавецтва «Мастацкая літаратура» і гарэзліва павешаная над рабочым кабінетам Барадуліна; зрэшты,



*У Пуцілкавічах захоўваюцца ўнікальныя здымкі з архіва П. Броўкі.*

увесь дом — рабочы кабінет). У спальні — асіныя гнёзды, якія ніхто не насмельваецца кранаць. Каб дом заставаўся жылы?..

Зрэшты, ён і так здаецца жылым — вось-вось зойдзе гаспадар. Да таго ж, гучаў яго голас: Сяргей Доўгушаў, які ў час вандроўкі праводзіў спеўныя майстар-класы, уключыў запіс, дзе Барадулін спяваў сваю ўлюбёную «Ой, лятала шэра перапёлка».

Развіталіся з паэтам на ушацкіх могілках.

Усё ж добра, што дом Барадуліна яшчэ не пераўтвораны ў музей. Так у ім застаецца жыццё.

### ГАЛЕРЭЯ НА ПЛОЦЕ

А вось дамы Быкава і Броўкі — музейныя. У Бычках, на радзіме Васіля Уладзіміравіча, нас сустрэлі з пачастункамі, кніжнай выстаўкай і тэатрам: ставілі сцэнкі з твораў. У самім доме вас сустракае ўнушальных памераў бюст пісьменніка, далей — традыцыйная этнаграфічна-пабытавая экспазіцыя (усе прадметы падпісаныя; раптам вы забыліся, як выглядае лаўка?..). Зноў жа, ёсць на што звярнуць асаблівую ўвагу. Галоўнае — тая самая пахаронка, якая заўчасна запісала Быкава ў шэрагі загінулых, і ліст, дзякуючы якому сястра Быкава Валянціна зразумела, што брат — жывы. На стале — акуляры, пазнавальныя дзякуючы многім здымкам пісьменніка. Лісты, напісаныя ў родную вёску з замежжа. Увогуле, музей пакідае ўражанне дзіўнага спалучэння дому Кулапы ў Вязынцы, дошкі гонару і нечага асабіста-быкаўскага. У двары, проста на плоце і на бярвенчатых сценах, развешаныя карціны (пастаянная экспазіцыя ці сюрпрыз для гасцей?). Тут увагу найперш звяртаеш на партрэт Валянціны Уладзіміраўны, сястры пісьменніка. Да кампаніі гасцей далучылася цікаўная суседка, якая ведае спадарыню Валянціну. У прыватнай размове жанчына выказала сумнеў наконт нападу на Валянціну Уладзіміраўну: мяркуе, гэта няшчасны выпадак. Госці да такой версіі паставіліся з недаверам.

### ПАХНЕ ЧАБОР

Дарога ў Пуцілкавічы аказалася няпростай: больш як трыццаць кіламетраў па пяску, праз бясконцую завесу пылу. Шлях, які можна адолець за дваццаць хвілін, расцягнуўся на гадзіну. У аўтобусе пачалі жартаваць пра збор подпісаў, каб да радзімы Броўкі праклалі асфальт. Жарты жартамі, а было б няблага.

Апошні пункт вандроўкі аказаўся самы маляўнічы — высозныя елкі, цішыня, кругом зелена — і самы музейны. Гэтая хата была збудаваная ў 1985 годзе: сапраўдную спалілі ў час вайны. Відавочна, будавалі яе адпачатку з разлікам на музей: наўрад ці бедныя сяляне мелі такую вялікую, ды яшчэ так дзіўна спланаваную хату. Побач з домам — стэла памяці маці паэта Алены Сцяпанаўны. Яна загінула ў «Асвенцыме», прычым — па ўласнай волі: па загадзе на смерць адпраўлялі кожнага дзясятага. Алена Сцяпанаўна пайшла замест іншай жанчыны, маладзейшай.

У самім музеі суседнічае этнаграфія і літаратура. Некалькі пакояў сведчаць пра сялянскі побыт (рэчы не належаць сям'і Броўкаў, зазначыў наглядчык музея Міхал Сыс, збіраліся з розных куткоў Беларусі). Другую частку складаюць здымкі, рукапісы, рэчы Пятра Усцінавіча. Для гасцей прыадчынілі адзін з 17-ці чамаданаў — славутага падарунка музею ад сына паэта. Асаблівую ўвагу звярнуў на сябе здымак, на якім — Броўка і невядомая дзяўчына. На пытанне «Хто гэта?» супрацоўніца музея адказала таямнічым «Год адзінаццаць, а можа дванаццаць…». Хто ведае?..

А потым — спевы, грыбны суп і чабаровая гарбата.

На гэтым можна было б паставіць кропку, аднак, думаецца, вандроўка не апошняя. Усіх ахвотных чакаюць Ракуцёўшчына, Кушляны, Завоссе, Цімкавічы… Лета доўгае!

**Наста ГРЫШЧУК**

# Янаў час

**На Купалле, у час росквіту прыроды, на беларускай зямлі з’яўляюцца на свет Паэты. І гэта не толькі слаўны Янка Купала, але і яго папярэднікі — Ян Чачот (1796 — 1847) і Янка Лучына (1851 — 1897).**

Няма сэнсу ў юбілейнай нататцы прыгадваць біяграфіі творцаў, але на асобных момантах спыніцца мэтазгодна. Вуліца Яна Чачота ёсць у Варшаве. І для сучасных палякаў ён дзеяч польскай культуры, сябра Міцкевіча. Тым не менш не ўсё так проста.

«Усё тут кепска, усё тут будзе недаспадобы чалавеку, які не жыватом, а розумам глядзіць на тое, што дзеецца. […] Здаецца, нідзе больш не могуць людзі жыць так, як тут — для жывата і сябе… Словам, усе імкнуцца тут да таго, каб ухапіць у свае хцівыя кіпцюры ці то грамадскае дабро, ці чый-небудзь прыватны набытак, усе рвуць, махлююць, крадуць. У гэтым мастацтве палякі даганяюць ужо рускіх, а можа, са сваімі настаўнікамі і зраўняліся», — дзяліўся сваімі ўражаннямі ад польскіх нораваў Ян Чачот у лісце да Адама Міцкевіча з Варшавы ўвосень 1821 г. Гэта не выпадковая рэакцыя местачковага хлопца на прагматызм жыцця ў вялікім горадзе, а выразнае неатаясамліванне сябе, краеўца-ліцвіна, з палякамі і выяўленне негатыўных адносінаў да рысаў менталітэту. Прыведзеная цытата з прыватнага і шчырага ліста сябру — гістарычны факт, які дапамагае зразумець, чаму Чачот напісаў па-беларуску нямала вершаў, імянінных вітанняў і драматычных сцэнак, заснаваных на беларускім фальклоры, якія карысталіся папулярнасцю ў асяроддзі філаматскай моладзі.

Ігнат Дамейка прыгадваў пра Чачота і Міцкевіча: «Два нашы студэнты Навагрудскай школы з гадоў маленства добра ведалі наш […] люд, палюбілі яго песні, прасякнуліся яго духам і паэзіяй… У тыя школьныя гады ўбогая страха і народная песня распалілі ў абодвух першы паэтычны агонь. Адам хутка ўзнёсся да высокай сферы сваіх цудоўных твораў. Ян жа да смерці застаўся верны народнай паэзіі…» Відавочна, што на творах беларускага фальклору будучыя паэты выхоўваліся з маленства і былі двухмоўнымі — ведалі беларускую мову і краёвы варыянт польскай.

А вось што пісаў асуджаны па справе філаматаў за «польскі нацыяналізм» Чачот увосень 1825 г. з Арэнбурга: «Цяпер арэнбургская лінія, можна сказаць, запруджана палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць)». І ў Сібіры Чачот не лічыў сябе палякам.

Са ссылкі ён вярнуўся цяжка хворым, але аддаў усе сілы збору і выданню твораў беларускага фальклору. Шэсць зборнікаў утрымлівалі каля 1000 песень, прыказкі, прымаўкі, беларускі слоўнічак, 29 уласных беларускіх вершаў. І тым ён паставіў сабе помнік.

Уладзіслаў Сыракомля называў яго незабыўным, Францішак Багушэвіч карыстаўся яго «народнымі песнямі», Янка Купала ўдзячна называў яго імя. Мемуарыстка згадвала, што калі ў Вільні пачала выходзіць «Наша ніва», то «некаторыя з палякаў глядзелі на гэта як на “хлапаманства” і выяўленне краёвага патрыятызму ды казалі, што прыпамінала гэта Яна Чачота…».

У першай палове ХІХ стагоддзя на ніве беларускай літаратуры дзеячы перыядычна з’яўляліся, а вось рэальных працаўнікоў, такіх як Ян Чачот, бракавала.

Кожнае чалавечае жыццё хавае ў сабе нейкую драму. Не абярэжаныя ад гэтага і пісьменнікі, асабліва беларускія пісьменнікі ХІХ ст., калі яны мелі мала шанцаў надрукавацца. У пачатку 1894 года выпускнік Кіеўскага ўніверсітэта Мітрафан Доўнар-Запольскі звярнуўся ў лісце да 42-гадовага мянчука Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны) з пытаннем аб выданні яго беларускіх вершаў асобнай брашурай. На што атрымаў такі малааптымістычны адказ: «Сам ініцыятарам выдання не магу быць, але калі б яно здзейснілася, садзейнічаць пастараюся. <…> Бяз мэты, гэта значыць без надзеі на друкаванне, мая і без таго кульгавая муза маўчыць, зубы зціўшы». Парадокс?! Малады ініцыятыўны чалавек робіць аўтару звабную прапанову, а атрымлівае такі «невыразны» адказ.

Паэтычны зборнік Я. Лучыны «Вязанка» пабачыў свет толькі праз шэсць гадоў пасля смерці аўтара ў Пецярбургу ў 1903 годзе. І якраз гэтае выданне сталася першай мастацкай кніжкай, выпушчанай у ХХ стагоддзі на беларускай мове. Своеасаблівая «нярупнасць» паэта была абумоўлена не столькі яго сціпласцю, колькі незайздросным матэрыяльным становішчам і цяжкой хваробай, якія і сталі прычынай яго тагачаснай творчай дэпрэсіі. Прыкладна ў той жа час ён прызнаваўся ў адным з лістоў: *«Ужо два гады я нічога не пішу»*. А журботная


Малюнкі Алесі Ісы.

Янка Лучына.

паэтка з Капыльшчыны Зося Манькоўская так ахарактарызавала свайго мінскага сабрата па пяры: «Н. (Ян Неслухоўскі. — **І. З.**) — чалавек добрых памкненняў, але нешчаслівы, калека, са спаралізаванымі нагамі <…>. Хто ў такім няшчасці, як ён, думае яшчэ аб працы грамадскай, той мусі мець вялікае сэрца». Сучаснікі вельмі высока ацэньвалі талент паэта, скажам, польская паэтка Марыя Канапніцкая. Але былі і пэўныя агаворкі: «Неслухоўскі быў сапраўдным паэтам, але несучасным: новыя паэтычныя плыні зусім не аказвалі на яго ўплыву, яго настаўнікамі былі Міцкевіч, а перш за ўсё Сыракомля».

У пачатку ХХ ст. лёс творчай спадчыны Лучыны складваўся па-рознаму. З аднаго боку, літасціва, бо пабачыла свет «Вязанка» (1903), з другога, празмерна сурова. Так, у першым томе славутых «Беларусаў» (той жа 1903) Яўхіма Карскага такія ацэнкі лучынаўскім вершам: «Верш мастацкай вартасці не мае», «Даволі непісьменны ў адносінах арфаграфічных верш правільна апісвае бедную беларускую прыроду і ўтрымлівае разумныя пажаданні». Значна пазней у 3 томе «Беларусаў» (1922) акадэмік напіша пра спадчыну Лучыны мякчэй, але непасрэдна спрычыніцца да нараджэння двух міфаў: 1) «Паэзія Неслухоўскага служыць толькі дапаўненнем творчасці Багушэвіча»; 2) «Мова Ів. Неслухоўскага ўжо больш чыстая, але верш яшчэ слабы ў адносінах рытму, часта ён мае сілабічны характар».

Аднак брутальныя ацэнкі Я. Карскага не перашкодзілі пазітыўнаму ўплыву твораў паэта на суайчыннікаў. Паказальна, што Якуб Колас звярнуўся да беларускамоўнай творчасці дзякуючы вершу Лучыны. Народны паэт прыгадваў: «Пра беларускую літаратуру я нічога не ведаў. Чуў толькі беларускія песні, якія, седзячы за калаўротам, спявала мая мама. Першы беларускі твор, які я пачуў, быў верш Янкі Лучыны (Неслухоўскага) “Стары ляснік”. Ён моцна мяне ўразіў <…> тым, што быў напісаны па-беларуску <…>, выклікаў упэўненасць самому напісаць нешта падобнае, не чуць не горш напісанага».

Жыццяпіс Яна Неслухоўскага небагаты на нейкія выключныя факты, таму звернем увагу на паасобныя. Будучы пісьменнік нарадзіўся ў Мінску. Сям’я жыла ва ўласным доме на вуліцы Юр’еўскай, што месцілася на частцы сённяшняй Інтэрнацыянальнай (ад Леніна да Янкі Купалы). У тагачасным Мінску жыў калі-нікалі Беларускі Дудар В. Дунін-Марцінкевіч. На жаль, фактаў уплыву яго творчасці на паэзію будучага паэта Лучыны нам невядома.

Іншая справа з паўстаннем 1863 — 1864 гг. Ёсць пакаленне Багушэвіча, да якога належаць Каліноўскі, Абуховіч, Тапчэўскі, і ёсць пакаленне Лучыны, прадстаўнікі якога, па словах паэта, *«самую цудоўную старонку айчыннай гісторыі» «апошняе намаганне прыгнечанага народа, здзейсненае з мэтаю скінуць ненавіснае, прыніжальнае ярмо»* перажылі ў маленстве, калі яны не маглі быць непасрэднымі чыннымі ўдзельнікамі, бо ім была наканавана роля, скажам так, эмацыянальных сведкаў.

Ян Неслухоўскі ведаў пра многае, горача перажываў тагачасныя падзеі, што пазней дазволіла яму выступіць у якасці гісторыка паўстання на Міншчыне ў выдадзеным у Кракаве ў 1889 годзе абразку «З крывавых дзён», падпісаным крыптанімам *S. У нарысе было зафіксавана і паўночнае ззянне ў снежні 1862 года, калі маразы даходзілі да 30°, і *«адсутнасць згоды і сапраўднай бескарыслівай любасці да краю»* ў грамадстве Міншчыны, і тое, што *«жыхары Мінска, асабліва моладзь, горача ўспрынялі паўстанне»* і многае іншае. Трэба прачытаць гэты твор, каб атрымаць уяўленне, што ж сапраўды адбылося тады і як тыя падзеі адгукнуліся ў нашай гісторыі. Сам творца быў пераканаы, што калі б адкрылася яго аўтарства для расійскіх уладаў, яго несумненна чакала б Сібір.


Ян Чачот.

Бура мінулася, пакінуўшы ў трапяткім сэрцы падлетка нязгасную мару пра гераічныя ўчынкі. Але трэба было жыць далей. У 1865 годзе Ян паступае адразу ў 3 клас Мінскай гімназіі. Цікава, што, будучы гімназістам, ён пачаў збіраць творы беларускага фальклору. У «Материалах для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» (СПб., 1887) змешчана запісаная "учеником VI кл. Минской гимназии Неслуховским" дзіцячая песня. Гімназія была закончана з пахвальным лістом у 1870 годзе.

А з восені 1871 па верасень 1877 года Неслухоўскі быў студэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута.

Пра гады вучобы амаль нічога невядома. Аднак я адшукаў цікавае і верагодна невыпадковае супадзенне пэўных фактаў яго біяграфіі з жыццяпісам яго равесніка рэвалюцыянера-народніка Сяргея Сінягуба (1851—1907). Ён таксама спачатку вучыўся ў Мінскай гімназіі, а затым з 1871 года стаў студэнтам таго ж Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Калі ўлічыць гэтыя акалічнасці, было б дзіўным, каб яны не былі знаёмы паміж сабой. Ва ўсякім разе, тэма магчымых сувязяў Сінягуба з Лучынам мне ўяўляецца перспектыўнай.

Атрымаўшы дыплом інжынера-тэхнолага, Неслухоўскі па непацверджаных звестках служыў на чыгуначных складах у Тыфлісе ў перыяд з 1877 па 1879 год ці нават па 1886 год. На мяжы 1879 — 1880 гадоў яго напаткала няшчасце: ён раптоўна быў спаралізаваны, а лячэнне не дало магчымасці абыходзіцца без мыліц. Уявіце сабе маладога чалавека, якому не было і 30 гадоў, у такім стане. А тады ж не было ні інтэрнэту, ні тэлебачання, ні радыё. Жыццёвая драма, аднак, не зламала Неслухоўскага, але змусіла застацца ў Мінску, дзе ён да канца дзён служыў у адміністрацыі Лібава-Роменскай чыгункі.

Максім Багдановіч пісаў: «<…> Паміж твораў Неслухоўскага няма пісьменніцкіх выкідышаў, каторыя так нярэдкі цяпер. Талент яго ўстаў перад чытачамі ва ўвесь свой рост». Лірыку Лучыны характарызуе эмацыянальнасць, меладычнасць, пейзажнасць, якія адным з першых адзначыў Максім Гарэцкі: «Родную прыроду Неслухоўскі першы апісаў з асаблівай паэтычнай мяккасцю, з беларускім лірызмам».

Да нас дайшло ўсяго 14 беларускіх арыгінальных вершаў паэта. У 3-томнай «Анталогіі беларускай паэзіі», якая па азначэнні ўтрымлівае ўсё лепшае, з 14 беларускіх вершаў Лучыны змешчана 9. Вось такі на рэдкасць высокі працэнт якаснай паэтычнай прадукцыі, пра што гаварыў яшчэ Багдановіч. Большасць вершаў стала класікай нацыянальнай паэзіі канца ХІХ ст.

Дыямент паэзіі Лучыны — польскамоўная паэма «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся». Задоўга да Коласа і Мележа тут было апаэтызавана Палессе. Лучынава творчая спадчына дайшла да нас не ў поўным аб’ёме. І ў жыццяпісе паэта нямала таямніц і загадак. Пра гэта якраз і гаварыў нястомны шукальнік літаратурных скарбаў Генадзь Кісялёў: «Аўтографаў мастацкіх твораў выдатнага пісьменніка эпохі Янкі Лучыны амаль не захавалася. Сярод многіх легенд… ёсць таксама легенда аб існаванні выдання Лучынавай “Вязанкі” 1891 г.». Ёсць нешта містычнае ў тым, што Г. Кісялёў знайшоў вечны спачын на Кальварыйскіх могілках. Там жа, на Кальварыі, побач з братам і сястрой быў пахаваны і Янка Лучына.

На карце сучаснага Мінска можна адшукаць вуліцы Яна Чачота ў мікраёне Брылевічы і Янкі Лучыны — у Лошыцы. На жаль, большасць жыхароў сталіцы, як і насельнікі гэтых вуліц, маюць вельмі прыблізнае ўяўленне пра тое, хто гэта былі. А трэба прызнаць, што і Ян Чачот, і Янка Лучына нямала зрабілі для Беларусі. І за гэта мы, нашчадкі, павінны быць ім глыбока ўдзячнымі.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

# Няйначай Боская наканаванасць…

**Пачуўшы ў трубцы просьбу даць інтэрв'ю як перакладчык твораў лаўрэата Нобелеўскай прэміі, я, шчыра скажу, быў агаломшаны, ажно разгубіўся. Разгубіўся, бо, па-першае, чалавек я ўсё ж былога часу, веку і эпохі, з гэтага, новага, часу быццам выпаў і даўно мяне ніхто не турбаваў падобнымі просьбамі. Па-другое, гэта ж занадта гучна — перакладчык твораў Нобелеўскага лаўрэата! Калісьці, даўнавата ўжо, я пераклаў на родную мову некалькі кніжак таленавітай, тады яшчэ бадай што маладой пісьменніцы і слаўнай ва ўсіх адносінах, інтэлігентнай, далікатнай, шчырай, заўжды ўсмешлівай жанчыны Святланы Алексіевіч, ці не найбліжэйшай сяброўкі жаданай нашай аўтаркі і нават лімаўскай лаўрэаткі Марыі Вайцяшонак. Мо гэта акурат яна і падказала Святлане Аляксандраўне маю грэшную асобу як кандыдата ў перакладчыкі яе кніг. Па-трэцяе, жанр інтэрв'ю — не для мяне, даваў я яго нашаму журналісцкаму брату зрэдку, мо разы са тры ўсяго. Урэшце, і здароўе даўно ўжо не тое, каб з ходу, без аніякае падрыхтоўкі ўключацца ў гаворку. І, у выніку, я ветліва, па-англійску, як кажуць, адмовіўся.**


Мікола Гіль.

Аднак пасля, ачомаўшыся і адумаўшыся, сеў за камп'ютар, каб усё-такі сёе-тое сказаць. Званок усё ж штосьці абудзіў, разварушыў — не так у памяці, як у душы, бы акацыла цёплая і пяшчотна-прыемная хваля. І дальбог жа, чым больш сядзеў і думаў наконт гэтай нечаканай просьбы, тым усё больш прыбягала думка пра тое, што ёсць у гэтым свеце ці то нейкая таемная чалавечая ўзаемазалежнасць, ці то тэлепатыя, ці то нават Боская наканавасць. Бо вось жа…

Мо першы імпульс, які падштурхнуў мяне вызначыцца з прафесіяй, звязаць лёс з працай журналіста, літаратара, было тое, што я ці не змалку любіў слухаць гаворку людзей. Усюды: на вуліцы, у полі, на ферме, на таку ля матарні і, само сабою, у нашай хаце. Бацька быў старшынёй сельсавета, пасля — старшынёй калгаса, і да яго прыходзілі людзі са сваімі просьбамі, крыўдамі, а то і са скаргамі ў любы час. Часта сёй-той заседжваўся да поўначы, і я, пакуль не засну за посцілкай-шырмай, слухаў ціхую, а часам і не надта, гамонку позняга «госця» з бацькам. Прыходзілі людзі (брыгадзір, даярка, рахункавод) і нацямку, і я прачынаўся ўжо пад журчанне галасоў. Было цікава не толькі тое, пра што гаварылі, але, бадай, як. І чым больш сталеў, тым больш здзіўляла і ўражвала, што розныя людзі гаварылі па-рознаму. Адной і той жа моваю, нават, можна сказаць, аднымі і тымі ж словамі, а — па-рознаму. У кожнага свае ўлюбёныя слоўкі і выразы, воклічы згоды і нязгоды, манеры пытацца і перапытваць, свае посмешкі і кляцьбы, інтанацыі і рытмы. Вучнем старшых класаў я нават спрабаваў штосьці запісваць у самаробны блакноцік: асобныя словы, выразы, сказы…

Гэтая цікавасць да народнага маўлення засталася назаўжды. З яе, гэтай цікавасці, і пачаліся, па сутнасці, першыя літаратурныя спробы. Прынамсі, у маёй першай невялічкай кніжачцы «Ранішнія сны» ці не галоўнае месца займаюць амаль дакументальныя запісы гаворак вясковых жанчын на лаўцы ў часе кароткага адхлання ад працы пад назваю «Слабодскі парламент». І літаральна ўсе наступныя гады мяне цягнула працаваць акурат у гэтым кірунку. Колькі разоў думаў аб тым, каб пахадзіць пешшу па Беларусі, прытым не торнымі дарогамі, ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка, паглядзець, дзе што і як, а галоўнае — паслухаць, запісаць на дыктафон маналогі і дыялогі, а пасля, можа, прасеяўшы і трошкі падрэдагаваўшы запісы, зрабіць вялікую кнігу пра беларусаў, «напісаную» імі самімі. Падахвочваў да гэтага і Міхась Стральцоў, сябра юнацтва і «хросны бацька» ў літаратуры, нават выказваў жаданне скласці мне ў такой пілігрымцы кампанію. Але, як казаў паэт, суджаны нам добрыя намеры! Рэдакцыйная служба (а я менавіта служыў, шмат гадоў цягнучы лямку адказнага сакратара, намесніка галоўнага рэдактара і ўрэшце галоўнага рэдактара стаўшага родным для мяне «ЛіМа») не адпускала ні на дзень.

*Рабіў я гэтую работу не толькі з ахвотаю, але і з нейкім унутраным задавальненнем, з разуменнем таго, што перакладаю адметныя кнігі, вельмі адрозныя ад большасці кніг звычайнай для таго часу савецкай, у тым ліку і беларускай, прозы. Кнігі гэтыя былі дакументальныя, нарысавыя, публіцыстычныя, ды, зноў жа, таксама не падобныя на шматлікія тагачасныя зборнікі нарысаў.*

Зрэшты, мо віною была і мая шалевая (па гараскопе я — шалі) нерашучасць-ваганне. Не ўмеў і не ўмею, як іншыя, загадаць сабе і рашуча кінуць-рынуць усё і ўзяцца за тое, што вабіць, кліча, загадвае. Горка прызнацца, але не здзейсніў я і таго, што можна было б зрабіць пры ўсёй занятасці на службе: напісаць кніжку пра сваю родную вёску, пра яе людзей — прайсці ад хаты да хаты і распавесці пра іх насельнікаў, пра іх дзядоў, бацькоў і нашчадкаў, — нешта кшталту (хай далёкага) цікавых кніжак слынных сыноў Беларусі М. Гарэцкага і М. Улашчыка пра свае родныя паселішчы. Чакаў-чакаў нейкага зручнага часу і «дачакаўся», што адышлі ў нябыт усе знаўцы і зберагальнікі памяці маёй незабыўнай Слабады.

Дык вось, вяртаюся да пачатку. Калі ці то сама спадарыня Святлана (з падказкі згаданай вышэй М. Вайцяшонак), ці выдавецтва прапанавала мне перакласці кніжку «Цынкавыя хлопчыкі», я, ужо нягледзячы на сваю шалевасць, без роздуму згадзіўся. Гэта ж як нейкая нечаканая кампенсацыя, своеасаблівая ўзнагарода за горыч ад няспраўджаных задум і жаданняў: перакласці кнігу жывых чалавечых галасоў, занатаваць якія марыў шмат гадоў! Ну і, вядома ж, падахвочвала, нават ці не абавязвала прыняць прапанову, разуменне таго, што і так задоўжыўся час, даўно трэба было б, каб кніжка пра ахвяры злачыннай вайны выйшла і на нашай мове. Ды ўжо хоць бы таму, што без малога тысяча беларускіх хлопчыкаў вярнуліся на Бацькаўшчыну ў цынкавых трунах (усяго па Саюзе — амаль пятнаццаць тысяч).

*Святлана Алексіевіч больш чым годна выканала запавет настаўніка. Больш за тое: яна здзейсніла подзвіг. Пяць яе важкіх у самым высокім значэнні гэтага слова кніг, на стварэнне якіх яна аддала нямала гадоў жыцця і нястомнай, удумлівай і мэтанакіраванай працы і якія істотна пашырылі нашы веды пра наш свет і чалавека ў гэтым свеце, прытым у пэўным часе і месцы, набываюць статус прыжыццёвага помніка пісьменніцы.*

Потым былі кніжкі «У вайны не жаночае аблічча», «Зачараваныя смерцю», «Чарнобыльская малітва». Нейкіх асаблівых цяжкасцей з перакладам амаль не ўзнікала, хоць і гучалі там галасы прадстаўнікоў амаль усіх народаў былога Савецкага Саюза. Усе яны спавядаліся аўтарцы на адной мове — рускай, з удакладненнем: савецкай. Мова, ці лепш гаворка, гэтая ўва ўсіх была амаль што аднолькавая, за выключэннем хіба сякіх-такіх «акцэнтаў». Перапісваючы кніжкі па-беларуску, я, можа, нават сям-там перастараўся, надаючы ім занадта нашае, тутэйшае гучанне. Сям-там ужываў не самыя шырока вядомыя словы з беларускай лексікі, «пераціскаў» у тых ці іншых момантах, трохі мяняў — на беларускі лад — тыя самыя акцэнты. Зрэшты, можа, і памыляюся. Можа, акурат гэта трэба было рабіць больш настойліва і часцей, асабліва датычна споведзяў менавіта беларусаў.

Рабіў я гэтую работу не толькі з ахвотаю, але і з нейкім унутраным задавальненнем, з разуменнем таго, што перакладаю адметныя кнігі, вельмі адрозныя ад большасці кніг звычайнай для таго часу савецкай, у тым ліку і беларускай, прозы. Кнігі гэтыя былі дакументальныя, нарысавыя, публіцыстычныя, ды, зноў жа, таксама не падобныя на шматлікія тагачасныя зборнікі нарысаў. Яны былі шчымліва-пранізлівыя і балючыя. Бо з іх старонак гучалі жывыя (яшчэ раз падкрэслю) людскія галасы, не змікшараваныя і не падрэтушаваныя. І гэта былі найперш і найчасцей галасы невыноснага болю і пакут, ці, прынамсі, ціхага, але таксама пякучага жалю. Гэта былі галасы ўдзельнікаў і сведак найжахлівейшых трагедый, што зведаў народ велізарнай краіны («с южных гор до северных морей») у сярэдзіне і напрыканцы XX стагоддзя.

Да «Цынкавых хлопчыкаў» прадмову «Схаваная вайна» напісаў Алесь Адамовіч. І невыпадкова. Гэта акурат ён благаславіў маладую супрацоўніцу часопіса «Нёман» С. Алексіевіч на адказную і самаахвярную працу па збіранні непадманлівых людскіх галасоў, хор якіх выявіў усю карціну жыцця народа і краіны. А. Адамовіч і сам стварыў такія кнігі: у суаўтарстве з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам — «Я з вогненнай вёскі» і разам з Даніілам Граніным — «Блокада». Іх уздзеянне на чытача было мо нават большае, чым кніг мастацкай прозы, бо тут праўда быцця — не прыдуманая, рэальная, у дадатак агаленая дашчэнту, анічым не прыхаваная, і таму яна, гэтая праўда, па-жывому кроіла чытацкія душу і сэрца. І меў, напэўна, рацыю А. Адамовіч, калі гаварыў у сувязі з гэтым пра «звышлітаратуру». Яна паклікана і нараджаецца новым векам у гісторыі чалавецтва — векам небывалага тэхнічнага прагрэсу (казка сапраўды апярэджвае быль!) і векам такіх жа небывалых катаклізмаў і трагедый, рэгрэсу маральнасці і духоўнасці.

Святлана Алексіевіч больш чым годна выканала запавет настаўніка. Больш за тое: яна здзейсніла подзвіг. Пяць яе важкіх у самым высокім значэнні гэтага слова кніг, на стварэнне якіх яна аддала нямала гадоў жыцця і нястомнай, удумлівай і мэтанакіраванай працы і якія істотна пашырылі нашы веды пра наш свет і чалавека ў гэтым свеце, прытым у пэўным часе і месцы, набываюць статус прыжыццёвага помніка пісьменніцы. І ўрэшце заслужана праца яе па стварэнні тысячагаласага хору чалавечых пакут уганаравана найвышэйшай літаратурнай прэміяй свету — Нобелеўскай.

Дваццаць пяць гадоў назад я перакладаў кнігі тады яшчэ маладой, хоць ужо і вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч. А сёння яна — Набеліятка. Слава ёй! Але і — слава Беларусі! Усе нашы людзі радуюцца і ганарацца. Радуюся і ганаруся і я. І, можа, крышачку больш і інакш, чым хто іншы. Ну хоць бы ад усведамлення таго, што не проста жыву з лаўрэаткай Нобелеўскай прэміі ў адным часе і месцы, што ведаю яе асабіста, але нават і маю (меў, больш слушна будзе сказаць) да яе творчых (і грамадзянскіх!) здзяйсненняў пэўнае дачыненне. І перад вачыма — знакі гэтага дачынення ў выглядзе надпісаў на адвароце шмуцтытулаў яе кніг: «Пераклад з рускай мовы — М. С. Гіля». Хіба можна не ўсцешыцца? А тым больш усцешана, калі на самім шмуцтытуле прачытаю сёння (як у кнізе «Цынкавыя хлопчыкі», што выйшла ў выдавецтве «Беларусь» у 1991 годзе) такі аўтограф Нобелеўскай лаўрэаткі: «Дорогой Николай Семёнович — вот и первая наша книга. Спасибо. Надеюсь, что будут новые… Светл. Алексиевич. 21.III.91 г.».

Што было раней, тое было, з песні слова не выкінеш. Цяпер жа самы час і нагода для таго, каб усе пяць кніг (пакуль што пяць, шостая пішацца, сёмая — у задуме) лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2015 года **нашай** Святланы Алексіевіч у самы бліжэйшы час выйшлі на **нашай** мове. Гэта — ганаровы і ўдзячны абавязак Беларусі.

**Мікола ГІЛЬ**



Віктар ШНІП

## Чэрвень Васіля Быкава

быў чэрвень ад макаў чырвоны
а неба было белым як палатно
дзе можна намаляваць сонца
калі сонца няма над зямлёй
і ты намаляваў сонца
каб кожны дажыў да світання
якое ўсе чакалі і чакаюць
нягледзячы на знак бяды

акопамі нібы павуцінай
была аплецена зямля
дзе гаспадарылі воўчыя зграі
і ў полымі знікала роднае
а ты ішоў праз полымя
каб з праклятай вышыні
дзе мёртвым не баліць
убачыць свой чэрвень
і чорныя ляды
і жоўты пясочак
і доўгую дарогу дадому

чэрвень заўсёды прыходзіць
чакаеш яго ці не чакаеш
чэрвень як нечаканы матыль
залятаючы праз фортку ў хату
залятае табе ў сэрца
і трапечацца там і жыве
успамінамі пра лета
дзе сонца было і аблокі
як намаляваныя табой
на беразе вечнасці
дзе чаўны як твае разгорнутыя кнігі
дзе твае кнігі як чаўны

і сёння ў нас ёсць твой чэрвень
дзе стромкія бярозы
трымаюць неба над лецішчам
у якім чуюцца твае крокі
тваё дыханне твае словы
і аркушы белай паперы
як аркушы белага неба
у якім схаваліся твае думкі
пра чэрвень і пра нас
і новы чэрвень пачнецца
і прачнецца той хто народзіцца
на доўгай дарозе дадому

## Чарнобыльская малітва мастака

пасля 26 красавіка 1986 года
малюючы мастак не малюе
мастак моліцца
і ў кожнай кропельцы фарбы
жывуць ягоныя словы
ягоная малітва
да нас і да Бога
і ўзыходзячае сонца з туману
як з белай вечнасці
якой мы не ведаем
асвятляе крыжы на Храмах
і на магілах
і кожную травінку
і кожную пылінку
і вецер не тушыць свечкі
свечкі становяцца ветрам
які зрывае павуціну
і вымятае смецце з нашых душаў
з нашай памяці
вялікай як наша зямля
і як неба над намі
дзе зоркі гараць як свечкі
на полі якое перайшлі
нашы продкі
і ноч змяняецца днём
і знікае тое
што павінна знікнуць
і з'яўляецца тое
што павінна з'явіцца
і агонь гарыць у вадзе
і вада гарыць у агні
бо мастак моліцца фарбамі
у сваёй майстэрні
як у Каўчэгу
які плыве над горадам
і над усім светам
пад белымі ветразямі аблок
і лятаюць над ім чорныя анёлы
якім не хапіла белай фарбы
пасля Чарнобыля
які стаў краем белага свету
з якога бачна прорва
чорная чорная чорная
як вугаль
у руках Бога
якому мастак моліцца
каб сонца жыццём ўзыходзіла
не толькі на яго карцінах

## У галерэі Леаніда Шчамялёва

карціны як вокны
у свет дзе час спыніўся
як снег які ўпаў на зямлю
дзе неба адлюстроўваецца ў вадзе
а вада адлюстроўваецца ў небе
куды ўрастаюць крыжы на Храмах
як малітвы што сталі крыжамі

і хлеб на стале
як адна з чарапах
на якіх трымаецца зямля
дзе чорныя пляшкі з віном
як чорныя свечкі
якія чакаюць свайго часу
як голая дзяўчына
на белай прасціне
як на прыстані з назвай «Каханне»
куды вядуць усе дарогі
а тры сланечнікі сумуюць
бо іх пакінуў чацвёрты
і знік сярод чорных дрэў
што як чорныя калоны
яшчэ недабудаванага палаца
куды на конях едуць людзі
не палохаючы варон на снезе
праз які плыве човен

і стаяць пад чорнымі парасонамі
тры мужчыны
і чакаюць нас
як з мора пагоды

## Тэатр Валянціна Ермаловіча

на сцэне патухлая свечка
як адзіная стрэлка
твайго тэатральнага гадзінніка
які спыніўся
паказваючы зімовае неба
з якога сыплецца снег
як парваная папера
на якой не з'явяцца словы
новага спектакля пра каханне
Людвікі і Фабіяна
і чуюцца крокі на сцэне
дзе нябачныя акцёры
жывуць у сваіх ролях
як у сваім свеце
які быў створаны табой
з Любові з Веры з Надзеі
і светла было
у тэатры як у сусвеце
пра які не ўсе ведалі
як мы не ведаем
ці існуе разумнае жыццё
на іншых планетах
і ты зноў запальваеш свечку
каб светла было
не толькі на сцэне

## У сінім свеце

сініца пастукала ў шыбу
і ты прачнулася
і неба было сіняе
як пад вокам-сонцам сіняк
і сіні трактар правёз праз двор
смецце ў сініх мяшках
падкідваючы над сабой
аблачынкі сіняга дыму
і ты апранула сінія джынсы
і пакінула сіні дом
як вялікі сіні карабель
які скамянеў і ўрос у зямлю
сінімі каранямі
тэлефонных і электрычных дратоў
і ты пайшла ў сіні свет
у якім лётаюць сінія матылі
як сінія анёлкі
дзе васількі не пустазелле
дзе цвіце лён
як сіняе мора
дзе ля сініх бухты
сто гадоў стаіць паэт
і сінімі вачыма
глядзіць на сінюю зорку
якая далёка-далёка
як той горад
дзе ў сініх панчохах жанчыны
болей не збіраюцца
і якім не цікава
што ты пакінула свой сіні дом
каб любавацца сіняй далеччу
а потым пісаць вершы
пра сіні перыяд Пікасо
пра Сінія воды
дзе цякла наша кроў
каб спакойна цвілі сінія касачы
і ў сіняй паштовай скрынцы
як сіняя перліна ў ракавінцы
ляжаў сіні гузік
які ты пакінула ў пад'ездзе
дзе сінія сцены
на якіх сёння ты напісала
што ты яшчэ вернешся
ты абавязкова вернешся
каб твае сябры сінеючы ад холаду
у чаканні цябе
ніколі ніколі не сталі блакітнымі

***

заснеш і не прачнешся
разам з сонцам
якое чырвонае як кроў
з адсечанай галавы пеўня
што разбудзіў новы дзень
у якім яго ўжо не будзе
як і цябе
бо ты заснеш і не прачнешся
каб ісці на працу
ты прачнешся заўтра
якое ўжо не будзе заўтрам
як не будзе дажджу
бо не будзе аблокаў
на якіх ты заснеш
каб прачнуцца сярод лета
дзе ў кожнай кветкі
ёсць свая пчала
што не дасць табе заснуць
стукаючыся аб шыбу вакна
за якім зоркі як кроплі мёду
з якіх анёлы зляпяць сонца
залатое сонца а не чырвонае
і ты прачнешся каб сказаць
усё будзе добра



Людка СІЛЬНОВА

## Подзвіг

Знайсці ў сабе сілы.
І подзвіг зрабіць.
Па-нашаму сёння —
той зрух сатварыць,
Які перайначвае
ў нечым быццё
Ці хоць бы прыватнай
асобы жыццё.

## Верш, напісаны на навуковай канферэнцыі

Тут не слова было
спачатку,
А маланкава-яркі даклад!
Важкі, як грому разрад…
А пасля дадаліся словы
І кніжны свет адмысловы,
Бібліятэка Нацыянальная,
Жыццё — дзіўнае,
запамінальнае.

## Дождж у Менску

Гэты дождж, гэты
кволы шоргат
Па ранішнім шкле, па блясе
Халодна-блакітнай. Горад
Аціхлы, прыбраны, ясны…
Я так люблю яго, неба!
Вуліцаў роўных аснову.
Як дарагое зрэб'е,
Што не заменіш новым.

## Вільня

Крывыя вулкі Вільні…
Калісь ваўкі тут вылі
На беразе Вяллі
І звалі чарадзейства
На ласку і зладзейства,
А дні, як снег, ішлі…

Паўночная сталіца!
Багіня і ваўчыца:
Блізнят узгадаваць,
А потым — абярнуцца
Клубком зміяных вуліц
І ў Вечнасці растаць…
Каменная легенда.
Наш храм, статут і крэда.
Ды — ветрам панясло
Насення парушынку,
Як белую сняжынку
На чорнае крыло…

## Чарадзейны Полацак

Верш-фэнтэзі

…І знайду навобмацак:
Валацуга Полацак.
Па лясах бадзяецца,
Дзіўных птушак слухае,
Воўчым адгукаецца
Плачам… ці зязюлькаю…

Горад-прывід, прыхадзень
Як нябёсаў прыхамаць,
Падарунак волатаў…
А ці склеп каханаму:
Напалову з лотаці,
Напалову з каменю.

Дрыжыкі цымбальныя:
На Паўночным балі я…
На стале з напоямі —
Стравы крутабокія,
Паміж імі — Полацка
Пірагі высокія.

З мора вазьму мару я —
Перакулю чару я.
На абрус адбелены
Кроў мая абернецца —
У горад, вечна верны мне,
У Менск мой дух
не вернецца!



Ірына ВОЙТКА

***

Я па зямлі тваёй хадзіла,
мая Радзіма,
Упэўнена і шпарка.
Я вясну тваю сустракала
натхнёна і апантана.
Я ехала ў вёскі твае
Да людзей тваіх
шчырых і праведных.
Я любіла твае гарады
фанатычна.
Я заходзіла ў рэкі твае.
Я крыніцы шукала жывыя.
Тваю рунь маладую ласкала
я вокам ўлюбёна.
Я дарогі твае благаслаўляла
і ў дождж,
і ў спякоту.
І не слала ні небу, ні людзям
Ні крыўд, ні праклёнаў.
Над табою я птушкай
Махала крыламі высока,
Я, як ніва, табе
Гадавала сыноў.
Я любіла аддана цябе
і глыбока —
Палюблю я цябе і наноў.

## Бацькам

Старэнькая маці і бацька стары.
Бог век ім падоўжыў да нейкай пары.
Прыеду уранку, аж колы гудуць.
Сустрэнуць на ганку і ў хату вядуць.
Найдобрыя людзі, дзеці вайны,
і «Польшчу», і «немцаў»
шчэ помняць яны.
Сыходзяць паціху, сваё аджываюць,
гісторыю й праўду сваю забіраюць.
А праўда — яна на далонях старэчых.
Гісторыя крыж свой паклала
на плечы.
А вы папытайце, як ім жывецца,
і ў шчырасці бацька сваёй усміхнецца
і скажа, што добра. А доля цяжкая…
Дык долю сабе хіба хто выбірае?
Старэнькая маці і бацька стары.
Век бог ім падоўжыў да нейкай пары.

***

Пакліч мяне, мая дарога,
я ад цябе не адракуся.
Бо гаварыць на свеце з богам
хачу я словам Беларусі.
Пакліч мяне, не дай згубіцца
і патушыць агонь душы.
І навучы мяне маліцца
за тое, як мне трэба жыць.



Віктар ГАРДЗЕЙ

# Калі цвіла ліпа…

*Апавяданне*

Азартныя хлапечыя гульні і свавольствы пад раскідзістай старасвецкай ліпай, што не за нашай памяццю вырасла цераз вуліцу насупроць Князевай сялібы, нам, вісусам і дурасліўцам, здаюцца дужа пацешнымі і вясёлымі, але часцей самі ж мы і рагочам з гэтых сваіх штукарстваў, а староннія людзі, хто б ні ішоў, спалохана і здзіўлена аглядваюцца на незразумелы шум, гвалт, вэрхал. Хлапечыя дасціпныя забавы і выдумкі мала каго турбуюць: гуляюць бэйбусы нішкам, шкоды нікому не чыняць, то і няхай гуляюць.

У бур'яне, наўкруг шурпатага камля, тут у нас вытаптана нагамі, выкачана, выезджана каленямі ды іншымі часткамі цела сапраўднае ваўчынае кубло, дзе можна схавацца ў раптоўную непагадзь, выдумляць і расказваць казкі адзін пра аднаго, дурэць і рагатаць удосталь, ды, не баючыся дарослых, смела рэзацца ў «воза» ці ў «юдаля» і нават у спакуслівую «тысячу». Зацятых гульцоў у карты ад чужых вачэй надзейна прыкрываюць выгоністыя кусты шыракалістага лопуху, зараснікі палявога бадзяку, асоту, крапівы — звычайных насельнікаў даўніх печышчаў і пустак. Але дарэмна мы спадзяваліся высокім быльнікам засланіцца ад усяго свету: варта было нахапіцца залётнай хмарцы, спорна пырскануць буйнымі кроплямі на вясковыя агароды і сады, як некаму адразу і спатрэбілася наша ўтульнае сховішча.

Пад разложыстую крону, такую непрабіўную для дажджу і ветру, з мокрага бур'яну пхнуцца напралом знаёмыя нам вандроўныя гандляры рознай пабытавай драбязой. Асцярожна, з бояззю расхінула абвіслае вецце дробная, як мыш, Стэпка, затым у прагал лёгка ўціснуўся наўючаны, быццам вярблюд, мурлаты Казьма. Па якой дарозе, з якога боку яны неспадзявана заявіліся, мы не бачылі — пацясніліся, далі бедакам хоць нейкі прытулак. Нечаканыя госці адсапліся, асвойталіся з нашым ваўчыным логвішчам, дзе няма нават каменя ці цурбана, каб пасядзець. Праз колькі хвілін увачавідкі пачынае святлець, усталёўваецца цішыня, тая жаданая цішыня, калі выразна чуваць, што дождж перастаў, буйныя кроплі больш не рассыпаюцца шротам па пругкай лістоце, а брыскотлівы вецер умомант змяніўся на мяккі, пяшчотны павеў. З-пад навісі тонкага галля неспакойная Стэпка выглянула вонкі:

— Не будзем жа вам замінаць. У вас свае турботы, у нас — свае. Пойдзем мы.

Купіць якую-небудзь капеечную забаўку прыблудныя гандляры нам не прапаноўваюць: адкуль тыя грошы ў відавочных абібокаў? Самі ж вандроўнікі, пачапіўшы на сябе ўвесь свой запас тавару, зноў набылі самавіты выгляд, і гэта зразумела: ісці ім трэба навідавоку ў Малога Сяла, мінаючы дажджавыя лужыны, ціснуцца паўз платы перад слепаватымі вокнамі спарахнелых хат, дзе ў замужніх кабет і маладых дзяўчат прачынаецца неўтаймоўны спажывецкі сверб. Усё ж многім спатрэбяцца і бліскучыя брошкі, і чырвоныя стужкі, і пахучае мыла. На развілцы пясчаных вуліц, побач з пачатковай школай, шустрая Стэпка і мурлаты Казьма раз-пораз талопяцца на залітую сонцам ліпу. Урэшце, што іх там затурбавала? Кемлівы Стась адбегся па траве крыху далей і адтуль акінуў позіркам вяршок дрэва.

— Хлопцы, а ліпа цвіце!

Здарыўся цуд: у росквіце лета, як заўжды ў такую пару, у самы разгар касавіцы, зацвіла ці не адзіная ў Малым Сяле ліпа, можа, дзе-небудзь на хутарах і выселках ёсць яшчэ падобныя боскія дрэвы — мы не ведаем, вёска вялікая, але факт неаспрэчны — зацвіла менавіта наша ліпа, і распусціцца ў адзін момант мноству жоўта-белых суквеццяў падсобіў няйнакш спорны і цёплы лівень. Яны неяк дзіўна супадаюць: пара красавання жыта, сенакосу, абвальных дажджоў, пара цвіцення ліпы і адчайнага лёту свойскіх і патрывожаных у касавіцу чорных лугавых пчол і чмялёў.

Чуткі, што па ўсходняй ваколіцы Малога Сяла, падстаўляючы сонцу кожны свой лісцік, кожны песцік і тычынку, буйна і дружна зацвіла ліпа, даганяюць маласельцаў на сенажацях, у полі, на агародах і лясных сунічных і чарнічных палянах, прыемная і радасная навіна адных знянацку застала на пашы пры статку кароў, некага, нават хворага, умомант падняла з пасцелі, і той дзядок усцешана заморгаў бляклымі вачыма: «Што, можна збіраць ліпавы цвет?» Да нашай квітучай ліпы прыходзілі не міласціну прасіць мая родная баба Марка, прыходзіла Колева баба Тадорка, ды каб толькі яны! Прыходзілі блізкія і далёкія суседзі — баба Мар'яна, баба Тафіля, цётка Наста, цётка Сарафіня.

Ну, гэта людзі старэйшага пакалення, але што трэба ад хлапечай гурмы зусім юнаму і здараўчэзнаму на выгляд



пакаленню? Па амаль ужо высахлай пасля дажджу вуліцы міма пачатковай школы пад квітучую ліпу кіруюцца нашы аднакласніцы і даўнія непрыяцелькі з варожага стану Зіна і Гэлька, ведучы за сабой цэлую плойму маладзейшых сястрычак і замурзаных суседскіх дзяўчатак. Трывожыць хлопцаў не сам факт набегу задзірыстых і крыклівых асоб, а тое, што ў Зіны і Гэлькі матыляюцца ў руках белыя палатняныя торбачкі. Зразумела: будуць прасіць, каб і ім нарвалі ліпавага цвету.

— І чаму я раней не цурыў дахаты? — уздыхнуў Стась.

— Давай іх прагонім, і нам будзе спакайней жыць, — кажа Шура.

Да дзявочага племя мы не маем ні злосці, ні пагарды, але ў сваю кампанію шалахвостак прыняць не рашаемся. Прыдумляць казкі і тасаваць карты яны не ўмеюць, і ў «пікара» з імі не пагуляеш. Мы, хлопцы, пасталелі, і ў нас цяпер адпаведныя інтарэсы, а Зіна і Гэлька, маючы за плячыма па тры класы маласельскай пачатковай школы, ніяк не выкінуць з галавы свае дзіцячыя дурыкі. Вядома, ім сумна адным, ім хочацца пад нашу вясёлую ліпу, але, атрымаўшы рашучы адпор, аднакласніцы здалёк пачынаюць дражніцца: «Стась, не лезь у гразь! Стась у лужу — бразь!» Надта крыўдныя вершыкі і дражнілкі прыхаваны ў гарэзніц на кожнага з нас — на Колю, на мяне і нават на ціхмянага Шуру. Але гэтым разам неспакойная плойма прыйшла з мірам і дабром, і мы ім не пярэчым. Пад ліпай поўна непрыяцелек з суседніх вуліц. Пішчаць, скачуць, датоптваюць рэшткі расліннасці ў нашым логаве, а ўглыб бур'яну не лезуць — там сярод лопуху і бадзяку раскашуюць калючы асот і пякучая крапіва. Гасцінная ліпа ўжо стамілася наравіць кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму. Дзіўна: ніхто нічога і не просіць. З палатнянымі торбачкамі Зіна і Гэлька дарэмна кружаць вакол камля, дарэмна задзіраюць галовы: бачыць вока, а дастаць далёка.

— Падсадзілі б, ці што! — моляць карыя Зініны вочы.

— Ну, хіба вам гэта цяжка? — моляць сінія Гэльчыны вочы.

Ведалі б, як яны ўмеюць прасіць, гэтыя карыя і сінія вочы. Стась і я, хлопцы ўвогуле дужыя і спагадлівыя, добраахвотна і па-сур'ёзнаму ўзяліся памагаць адчайным верхалазам, хоць з першага подступу здзівіліся, што і Зіна, і Гэлька ніколі ў жыцці не падымаліся вышэй за табурэтку, каб сашчыкнуць у садку спелую вішаньку ці сліву. Трэба было б ім адразу патлумачыць: няма спрыту, мала ў руках моцы, дык і не лезь на дрэва, бо, як той казаў, ты ўгару — чорт за нагу, а спалоханы віскат і енк — справе тут кепскія памочнікі. Добра, што ў бур'яне хтосьці пакінуў невялікую, на тры прыступкі, лесвічку, і мы па гэтых трох прыступках без клопату зашпурнулі ўглыб кроны спачатку таўсматую Зіну, затым хударлявую Гэльку. Няхай самі пабачаць, як марудна збіраюцца дробныя суквецці ліпы, хоць у дзяўчат і рукі спрытнейшыя, і цярпення хапае. Рызыкоўных аднакласніц мы ўсё ж не забылі папярэдзіць: на вышыні трэба быць уважлівымі і асцярожнымі, каб не аступіцца, бо вельмі лёгка ачмурэць ад вострага мядовага паху і незаўважна грымнуцца вобзем. Чыйсьці плач і слёзы чуллівому дрэву зусім без патрэбы.

Далёка хлапечая гурма не адыходзіцца. Стась і я занялі пост каля самай лесвічкі: будзе падаць якая няўдаліца, дык падхопім. За навіссю бакавых галін чуецца шамаценне, рып, скрып. Вось на верхняй перакладзіне запыніліся чыесьці босыя ногі, міг — і грузная Зіна ўсім сваім цяжарам завісла на грудзях у Стася, вось хісткую лесвіцу намацала яшчэ адна пара ног, і Гэлька смела падае мне на плечы. Стась няўцямна лыпае вачыма, я здзіўлена гляджу на Стася. Адбылося штосьці неверагоднае і вельмі істотнае: заложніцы з варожага стану, тыя, хто пастаянна цвеляцца з намі, выкрыкваючы здалёк непрыстойныя вершыкі, цяпер у нашых руках. Мы, Стась і я, цудоўна зразумелі адзін аднаго: усё ж прыемна падсаджваць дзяўчат на ліпу і лавіць іх, як птушак, у распасцёртыя рукі. Знарочыста весела, без ніякай сарамлівасці Зіна і Гэлька падымаюць на траве згубленыя торбачкі і горда, як тыя царэўны, у акружэнні сваіх мурзатых «фрэйлін» нарэшце пакідаюць спляжанае ўшчэнт ваўчынае логвішча. Карыя і сінія вочы поўныя ласкі і дабрыні.

— Прыходзьце на школьны пляц гуляць у мячык!

…Зараснікі лопуху густа абсыпаны калючымі шышачкамі з парудзелымі ўжо чубчыкамі чырвоных кветак. Стась, наш атаман і завадатар, хітра пасміхаючыся, дзеля нечага цяпер асэнсавана рве калючкі, мы таксама не спім у шапку — робім запас зручных для кідання «снарадаў». Чакаецца вялікая бітва. Будзем шалець, рагатаць, ганяцца адзін за адным, стараючыся пацэліць саперніку ў чупрыну — ото ж паскача, каб выблытаць! Каманды тут не трэба, хто першы пачне, той і ў выйгрышы. Наводдаль каля сцяны школы чытаюць кінаафішу Зіна і Гэлька з усёй сваёй бесталковай плоймай. Хоць бы яны не ўздумалі бегчы сюды, дзе стаіць гатовае ў «штыкі», добра абвучанае Стасева воінства! Не, бягуць — вясёлыя, гарэзныя, крыклівыя, нарастае тупат босых ног, чуваць нават гарачае дыханне.

— Стась, не лезь у гразь! — цвеліцца каравокая Зіна.

— Стась у лужу — бразь! — падхапіла сінявокая Гэлька.

— Хлопцы, атакуем! — камандуе Стась.

Наш верхавод і галоўны стратэг яшчэ не глядзеў «Тайну шыфру», але і без ведання нейкіх сакрэтных звестак прымяніў адмысловы тактычны манеўр — крыклівыя стварэнні ўмомант раз'яднаны і з лямантам кінуліся наўцёкі. Не ведаю, што там дзеецца ў Стася, Колі і Шуры, а мне пад рукі зусім выпадкова патрапілася бялявая і сінявокая Гэлька. Яна бяжыць ў кірунку школьнага двара, шалёна перабірае нагамі — хоча ўцячы і нават крыху запярэдзіла мяне, хоць разрыў у некалькі сажняў якраз і патрэбны, каб прыцэльна, без мітусні папускаць наўздагон учэпістымі калючкамі. Раз — промах, два — промах, і вось на трэці раз — прамое пападанне. Прыгожая, як брошка, калючка тырчыць у мяккіх ільняных валасах, і, адчуўшы нешта нядобрае, Гэлька раптам спынілася, павярнулася тварам да мяне, і толькі адно, толькі адно слова:

— Ты?!

Нідзе не дзенешся — гэта я, той самы, з кім разам, зусім малыя, гулялі ў «класікі», збіралі валошкі ў жыце і аднойчы нават залезлі ў арфу каля Гаўрылавага гумна, ды і застраглі там, пакуль з пасткі не выбавілі дарослыя. Гэлька плача, плечыкі яе ўздрыгваюць, вялікія сінія вочы поўныя слёз. Мне брыдка, мне вельмі сорамна, мне хоць скрозь зямлю праваліся.

Гэлька, я больш не буду.

За бурнымі падзеямі на скрыжаванні вуліц назірае зажураная старая ліпа. Мая баба Марка, прызнаная ў ваколіцах шаптуха, казала, што ліпа звыш паслана заступніцай дзяўчат, адганяе дэманаў, а такіх, як я, нягоднікаў ператварае ў калматых мядзведзяў. Каб толькі ж легенды і казкі! Ліпа насупроць Князевай сялібы ў гэты момант самотная і адзінокая не таму, што сезон збору лекавага цвету прайшоў. Боскае дрэва зняважылі мы самі, шалапуты і вісусы, бо надта далёка зайшлі ў сваіх неабдуманых свавольствах.

**Стараннямі Алеся Бадака ў мінулым годзе часопіс «Полымя» надрукаваў нізку «малой прозы» выдатнага сербскага пісьменніка Горана Петравіча. Цяпер, у дадатак, я маю радасць і задавальненне прадставіць беларускамоўнаму чытачу яшчэ два невялічкія творы гэтага аўтара, ухопленыя, што называецца, «з лёту» — з інаўгурацыйнай прамовы яго ў Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў.**

**Перакладчык**

**Горан ПЕТРАВІЧ**



# Кропля крыві

Вось, на табе — парэзаўся аб паперу! Перадрукоўваў напісанае, неасцярожна браў лісты, і... Хто не парэзаўся аб паперу, той не ведае, як такі парэз можа балець! Прычым гэта яшчэ не ўсё. Боль здаецца намнога мацнейшым з-за неспадзяванасці, бо ты не чакаеш, што можна парэзаць рукі аб нешта гэткае нібыта бяспечнае, далікатнае. Ну брытва, нож, шабля і ўсё іншае, што з вострым лязом, — яно, вядома, небяспечнае. Мы гэта памятаем і асцерагаемся, як можам. Калі парэжамся аб нешта металічнае, лічым, што гэта нармальна, гэта звычайная падзея жыцця. Нават і тады, калі рэжучы прадмет у нашых руках ці ў руках іншага адымае жыццё. Між тым, ад паперы — гэта неспадзяванка. І парэз ад паперы нейкі асаблівa каварны. Ён ледзь прыкметны, але кранае глыбока. Крыві нямнога — усяго кропля нейкая, на першы погляд, зусім драбяза, аднак рана доўга зажывае. Хто не парэзаўся аб паперу і аб напісанае на паперы, той не ведае, як такі парэз можа балець.

## ІНШЫЯ КРОПЛІ

Спрабую прыгадаць іншыя кроплі. Тыя, што ўяўляюць сабою малыя светы, у якіх бачны свет вялікі. А яны вельмі ж нагадваюць літаратуру — не што іншае, як здольнасць у малым адчуваць самае найбольшае і ў вялікім распазнаваць самае найменшае.

Кропля вады, што сцякае па маім дзіцячым падбародку. Кропля найсаладзейшай вады, якую я калі-небудзь каштаваў, з кубка (з «конаўкі» —паправіў бы мяне дзед), і таму паўтараю: з конаўкі, якой я зачарпнуў з вядра. Як цяпер чую рыпенне калаўрота над вясковаю студняй і плёскат вады — як апалыя кроплі вады адгукаюцца ў мохам парослым жарале ніжняга свету.

Кроплі вады, у якую свяшчэннік абмаквае пучок сухога базіліку і асвячае, кропячы, сцены нашай першай хаты.

Кроплі воску ад свечкі, якія апякаюць далонь, пакуль ідзе богаслужэнне, калі хаваем бацьку. Затым кроплі ракіі, крыху якой, паводле звычаю, спярша выліваюць на зямлю, для душы нябожчыка.

І зноў кроплі свечкі. Зацвярдзелыя, на камені, які, паводле падання, калісьці знаходзіўся ў алтары, на месцы, дзе стаяла царква, даўно разбураная, а цяпер засталося толькі царковішча. Гэтаксама як і тое, што над царковішчам ужо не будынак-град, а гарадзішча. Гэтаксама як і вакол гарадзішча ўжо не зямля, а больш пустая назва той зямлі...

Кроплі сліны аднаго божага чалавека, які, бывала, разглаваўшыся на нейкую сусветную сілу, падыходзіў да рэчкі і пляваў... Уласна, ён не пляваў у прамым сэнсе, бо разумеў, што рабіць так нягожа, а толькі прамаўляў: «Цьфу!.. Вось табе!» Ён верыў, што гэткі выраз яго пагарды, трапіўшы ў рэчку, затым увальецца ў вялікую раку, а тая аднясе яго ў мора, якое злучаецца з іншым морам, і такім чынам дойдзе да берагоў сусветнай сілы, на якую той божы чалавек разглаваўся і якой выказаў усё, што меў выказаць.

Кроплі бензіну, які пры дарогах пераліваецца з пластыкавых бутэлек ад «Кока-Колы» ў бакі аўтамабіляў. Кроплі з бутэлек ад «напою радасці». Кроплі з пластыкавых бутэлек, якія перакупшчыкі ў безаглядным імкненні зарабіць крыху паварылі, так што яны не надта прыкметна скукожыліся, аднак змесціва ў іх ужо не тое, што на цэтліках пазначана.

Зноў жа кроплі золата, дакладней — кроплі так званага залатога лому, які ювеліры скупляюць па мізэрнай цане і пераплаўляюць у новае золата. Звычайна так робяць падчас вайны. І так чыйсьці заручальны пярсцёнак пераўтвараецца ў кроплі, а потым зноў у пярсцёнак. Да наступнай вайны.

Прыкладна гэтаксама і кроплі бронзы. Дакладней, кроплі пераплаўленых мемарыяльных пліт і меншых помнікаў. Пакуль што меншых толькі помнікаў, якія выкрадаюць, раздрабляюць і пераліваюць — выліваюць з нашай памяці, суправаджаючы справы свае апраўданнямі, што часы цяжкія... Разам з гэтым згадваюцца і кроплі пластыку, бо ўзнікаюць прапановы, каб скрадзеныя мемарыяльныя пліты ў будучым адліваліся з нейкай спецыяльнай пластыкавай масы, якая вельмі падобная да бронзы, але ёю не з'яўляецца.

Кроплі, што ўтвараюцца ў пячорах. Кроплі семені і плады вадкасці. Кроплі мацярынскага малака. Кроплі першай чаркі віна, выпітага з бацькам. Кроплі мёду. Кроплі, якія сочацца з толькі што спечаных чырвоных перцаў. Кроплі алею. Кроплі воцату. Кроплі, якія цэдзяцца і капаюць з дзюбы занядбанай, але яшчэ не перасохлай грамадскай калонкі. Пасалоннаму далікатныя кроплі валяр'янкі на кубіку цукру, каб прыемней спалася. Кроплі кінавары для ініцыялаў і мініяцюр у сярэднявечных кнігах. Кроплі чарніла для важных дакументаў. Кроплі шарыкавай ручкі, якая «пусціла», і след віднеецца на ўзроўні сэрца, дзе кішэнька сарочкі. Кроплі кавы, якія, трапіўшы на камп'ютар, ствараюць пагрозу кароткага замыкання ў той машыне, што мы цалкам даверылі сваю памяць. Кроплі, якія былі ў лакрымарыумах, шкляных пасудзінках для слёз, яшчэ з антычных часоў, а цяпер захоўваюцца ў музеях, якія не працуюць. Кроплі сілікону, сімвала цяперашняй прыгажосці. Кроплі ў бібліятэцы, дзе цячэ дах і літаратурны вечар праходзіць сярод перапоўненых ночваў і пустых кніжных паліц, бо кнігі перанесены ў больш надзейныя, а менш вільготныя сутарэнні...

І тая апошняя, лёсавызначальная кропля, што ледзянее, што камень прабівае, што дрэва ламае...

**Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ**

**Нэвена ВІТОШАВІЧ ЧЭКЛІЧ**

# Месца літаратуры ў культурнай прасторы XXI стагоддзя

На думку вядомага сербскага тэарэтыка літаратуры, ёсць тры істотныя законы літаратурнай творчасці. Акрамя персаніфікацыі і патрэбы, каб у мастацтве слова ўсё ажыўлялася і адухаўлялася, як вечнае сутыкненне процілегласцей, трэцяй важнай заканамернасцю, што абумоўлівае ўсе вялікія творы, з'яўляецца імкненне да ідэальнага, да абсалюту — да Бога.

Адзін французскі мысляр сказаў: «Дваццаць першае стагоддзе альбо стане векам духоўнасці, альбо яго не будзе».

Літаратура, падобна, з'явілася тады, калі чалавек адчуў, што яму цесна ў гэтым свеце і ён адной нагою ступіў у бок вечнасці.

Ужо ў адным з першых захаваных літаратурных твораў, старажытным месапатамскім «Эпасе пра Гільгамеша», сказана, што літаратурная дзейнасць скіроўваецца на пошук выйсця, адкрыцця сэнсаў і здабыцця бессмяротнасці.

А важныя выйсці ніколі не адшукваюцца толькі для сябе, яны для ўсіх. І вось дзякуючы такому пошуку і чалавечнасці пракладзены мост, па якім Гільгамеш, Анцігона, Адысей, Пенелопа, Гамлет, Дон Кіхот, Маленькі Прынц і многія іншыя героі прыйшлі да нас і накіроўваюцца ў XXI стагоддзе.

Так што адно з магчымых выйсцяў ужо ёсць.

Праўда, яно для тых, хто мае дачыненне да літаратуры. А як жа быць усім тым, хто не ўяўляе, што значыць чытанне, ці не ведае, што чытаць?

Калі думаю пра сучасны свет і літаратуру, пра мастацтва наогул і духоўнасць, то свет уяўляю як велізарную пустыню, у якой мільёнам людзей трэба наталіць прагу, а пры гэтым існуюць літаратура, мастацтва, духоўнасць — дзівосны аазіс з невычэрпнай крыніцаю, да якой, на жаль, вядзе мала сцежак і мастоў.

Выйсце я бачу ў глыбокіх — рэвалюцыйных, так сказаць — зменах сістэмы асветы. Вучобу як набыццё ведаў духоўнай культуры неабходна замацаваць у паўсядзённым, практычным жыцці, і кнігі трэба выкарыстоўваць як лекі і дарожныя знакі. Тады дзякуючы такім ведам бессэнсоўная, шэрая, мітуслівая рэальнасць ператворыцца ў сапраўды цудоўную казку.

Усе вялікія творы літаратуры — як старажытнай, так і сучаснай — якраз у гэтым сэнсе шукаюць выйсце для чалавека-пакутніка.

А тыя творы, што прадвяшчаюць альбо прапаноўваюць святло, напаўняючы душу цеплынёю і радасцю адкрывальніцтва, я называю творамі веруючай літаратуры, у самым шырокім сэнсе слова «вера». І кнігі з такімі творамі для мяне — кнігі светлыні. Яны — частка той неабходнай духоўнасці, што з'яўляецца перадумовай нашага існавання і здзяйснення надзей, якія звязваліся з XXI стагоддзем, хоць чалавецтва ўвайшло ў яго са страхам непараўнальна большым, чым калі б то ні было ў папярэдняй гісторыі.

Паводле маіх найглыбейшых перакананняў, адзіная душаратавальная сіла — гэта сіла хрысціянскай любові. Таму для мяне ўсё маё існаванне — школа такой любові. Сучасны пісьменнік, калі ён сапраўды хоча спрыяць паспяховаму існаванню свету ў цяперашні час, павінен быць і вучнем, і настаўнікам гэтай школы. Бо калі ў мінулым розныя навукі выніклі з філасофіі, то ў будучым яны павінны зліцца ў навуку любові. Інакш чалавецтва не будзе.

Як я ўжо адзначыла, свет вельмі многа страчвае з-за таго, што не здольны ў належнай меры выкарыстоўваць свае духоўныя скарбы, якія маюць велізарную вартасць і знаходзяцца, можна сказаць, заўжды пад рукамі. Але ён таксама вельмі многа страчвае і з-за таго, што не ўмее і не хоча ў належнай меры скарыстоўваць творчае харастсва з розных крыніц, з розных культур.

Нядаўна мая сваячка-студэнтка пыталася ў мяне, чаму сербскія пісьменнікі сталі пісаць значна менш: у кнігарнях поўна кніг перакладных, у асноўным з англійскай мовы. Думаю, што да такой сказанай высновы можна прыйсці, ведучы гаворку пра многія цяперашнія літаратуры, асабліва меншых народаў. Гэта сумна, але праўда, у Сербіі ўсё больш выдаўцоў, якія перасталі альбо перастаюць выдаваць айчынных пісьменнікаў, і ўсё больш кнігарняў, якія замаўляюць толькі замежныя бестселеры.

Дык што ж чакае тых аўтараў, якія пішуць ды ілюструюць у колерах для дзяцей, калі ў нас канчаткова пераважаюць ілюстраваныя выданні, перакладзеныя з англійскай мовы і надрукаваныя ў Кітаі ці ў Інданезіі? А мой выпадак якраз такі. І часам я ўсур'ёз задаю сабе пытанне: як гэта — дабірацца ў Сербію, да сербскіх дзяцей, праз Кітай ды Інданезію?

Пісьменнікі, як і ўсе дзеячы культуры і мастацтва, у XXI стагоддзі павінны быць намнога больш актыўнымі ў справах узаемасувязей і ствараць на міжнародным кніжным рынку лепшыя ўмовы для выдання твораў розных краін, розных моў. А то хутка можа стацца, што ў сусветным кантэксце мы будзем бачыць толькі англасаксонскую літаратуру.

А колькі б сусветная літаратура ў вяках страціла, каб была зведзена толькі да аднаго народа і адной мовы, якія б народ і мова гэта ні былі?!

Таму дазвольце, нагадваючы словы вялікага французскага рамантыка Альфонса дэ Ламарціна, закончыць зваротам: «Найлепшую песню разам напішам!»

**Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ**

# Што чыталі Радзівілы?

## Найноўшыя магчымасці аднаўлення гістарычных бібліятэк



*Экслібрыс бібліятэкі Радзівілаў на адным з выданняў з фондаў Прэзідэнцкай бібліятэкі.*

У лепшыя часы Нясвіжская бібліятэка Радзівілаў налічвала амаль 20 тысяч тамоў… Але больш за 300 замкаў на тэрыторыі Беларусі вытрымалі разбурэнні. Бібліятэкі знішчаны ці вывезены. Вяртаць замкавыя каштоўнасці — мэта Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Новы праект кніжніцы — «Замкавыя бібліятэкі». 126 алічбаваных кніг Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў з фонду старадрукаваных і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь перададзены Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку «Нясвіж». Такая ініцыятыва стала першым этапам праекта. Супрацоўніцтва Прэзідэнцкай бібліятэкі і музея-запаведніка «Нясвіж» (афіцыйна замацавана дагаворам ад 26 лютага 2016 года) набірае моц. Апошнім плёнам стала адкрыццё віртуальнай выстаўкі «Нясвіжскі замак у часе і гісторыі», якую ў Прэзідэнцкай бібліятэцы прадставілі намеснік дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» Дзмітрый Яцкевіч і загадчык сектара навукова-экспазіцыйнай дзейнасці гэтай установы Андрэй Блінец. Унікальныя рарытэты з запаветных 126 Радзівілаўскіх выданняў, што захаваліся ў Прэзідэнцкай бібліятэцы, можна пабачыць на выстаўцы калекцыі «Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў», якую падрыхтаваў аддзел старадрукаў і рэдкіх выданняў кніжніцы.

### ІДЭАЛЬНЫ ЕЎРАПЕЙСКІ ГОРАД

Радзівілаў цяжка ўявіць без славутага палаца ў Нясвіжы. Сёння Нясвіж — нефармальна культурная сталіца. А вытокі — у тых далёкіх часах…

У Радзівілаў былі дзясяткі рэзідэнцый: Чарнаўчыцы, Слуцк, Клецк, Койданава… Але ніводная не мела такой папулярнасці, як Нясвіж. А пачыналася ўсё напрыканцы XVI ст., калі ўладальнік Нясвіжа Мікалай Крыштаф Радзівіл, па мянушцы Сіротка, вырашыў стварыць з маленькага паселішча, што засталося ад бацькі, ідэальны еўрапейскі горад. Радзівіл хацеў падкрэсліць свой статус: першы магнат дзяржавы, князь святой Рымскай імперыі, таму рэзідэнцыя павінна адпавядаць лепшым еўрапейскім фартэцыям. Шмат давялося пераждаць замку. Сумныя часы пачаліся, калі прыйшлі шведы. Фактычна замак быў знішчаны.

Аднаўленне пачалося толькі ў 20-я гады XVIII ст. пры чарговым, 9-м, нясвіжскім ардынаце — Міхале Казіміры Радзівіле, па мянушцы Рыбанька. Менавіта тады замак набывае аблічча, якое захавалася да нашых дзён: чатырохпавярховы фасад з франтонам, дзе можна бачыць гербы Радзівілаў, Вішнявецкіх і выяву арла — найвышэйшай узнагароды Рэчы Паспалітай. XVIII ст. — час, калі Нясвіж перажывае другі росквіт. Нясвіж — цэнтр культуры ўсёй Рэчы Паспалітай: тэатр, друкарня, шыкоўныя балы, прыёмы. Уся магнатэрыя княства прыязджала сюды, да Міхала Казіміра, а потым і да яго сына — Караля Станіслава (Пане Каханку). Але зноў заняпад. 1812 год: палац бяруць рускія войскі. Гісторыкі сцвярджаюць, што ні да гэтага, ні пасля так Нясвіж ніхто не рабаваў. Найкаштоўнейшыя радзівілаўскія скарбы менавіта тады былі страчаны, на жаль, беззваротна. А сам палац чарговы раз прыйшоў у запусценне.

Больш за ўсё падзей на лёс Нясвіжскай славутасці выпала ў XX ст. Падчас Першай сусветнай вайны ў палацы размясціўся лазарэт для жаўнераўскай арміі. Што толькі не ладзілася ў палацы: сходы дэлегатаў заходняга фронту, бальшавіцкі камітэт... Потым Другая сусветная вайна. Калі ў Нясвіжы ўсталявалася савецкая ўлада, доўга вырашалі, як выкарыстаць палац. Спачатку прапаноўвалася зрабіць музей (тагачасныя калекцыі гэта цалкам дазвалялі), але ад ідэі адмовіліся, потым — аўтадарожны тэхнікум, яшчэ пазней — дом адпачынку супрацоўнікаў Народнага камісарыята ўнутраных спраў. Але ўсе планы перакрэсліла вайна. Падчас вайны тут размясціўся нямецкі шпіталь, а пасля пачаў дзейнічаць савецкі санаторый галоўнага лечупраўлення і існаваў ажно да 2001 г. Толькі ў пачатку XXI ст. у палаца наладжваецца музейнае жыццё.

Колькасць пакояў заўсёды мянялася: спачатку 108, потым 165. У палац прыязджалі першыя асобы Еўропы. У 1784 г. у Нясвіжы гасцяваў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Быў тут Прэзідэнт Польшчы Ігнацій Масціцкі, прымалі і прынца Манака Луі II.

Радзівілы лічылі, што знаходзяцца ў сваяцтве з трыма каралеўскімі фаміліямі: з Ягелонамі (парадніліся праз Барбару), з Вішнявецкімі і з Сабескімі. Пазней увайшлі ў блізкія адносіны з Гагенцалернам (нямецкая каралеўская дынастыя).

Радзівілы былі вельмі прасунутымі: актыўна цікавіліся тэхнічнымі навінкамі. Першыя фатаграфіі палаца зроблены ў 1894 г. Фатаграфавалі рэгулярна да 1939 г. Дзякуючы гэтаму можна пазбегнуць доўгіх інвентароў.

Яшчэ адно сведчанне прасунутасці Радзівілаў — першая аэрафотаздымка палаца, зробленая ў 1927 г. Нясвіжскі лётчык Абухоўскі ўзняўся на аэраплане над Нясвіжам і зрабіў фотаздымкі горада і палаца з вышыні птушынага палёту. Дарэчы, вядомыя паркі (усяго 5, агульнай плошчай 66 га), пасаджаныя вакол замка з ініцыятывы Марыі Дароты дэ Кастэлян, выкарыстоўваліся не толькі для шпацыру — там былі тэнісныя корты, лодачныя прычалы і нават… салярый у азярыне: унізе памяшканне, дзе можна было распрануцца, а зверху пляцоўка, закрытая ад вачэй, для сонечных ваннаў. Такую экзотыку засведчыў здымак 1930-х гадоў, прадстаўлены на віртуальнай выстаўцы.


291.14-3
О32
ELIZA ORZESZKOWA

ELI MAKOWER

CZĘŚĆ I

NAKŁAD GEBETHNERA I WOLFFA
WARSZAWA LUBLIN ŁÓDŹ
KRAKÓW G. GEBETHNER I SPÓŁKA
NEW YORK THE POLISH BOOK IMPORT. CO., INC.

*На тытульным аркушы і на 19-й старонцы ў Радзівілаўскай бібліятэцы ставілі круглы чырвоны штамп. Выданне з фонду Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі.*

«Нясвіжская бібіятэка была адной з лепшых у ВКЛ, — адзначае загадчык сектара навукова-экспазіцыйнай дзейнасці музея-запаведніка «Нясвіж» Андрэй Блінец. — Яе пачаў фарміраваць яшчэ Мікалай Радзівіл Чорны ў XVI ст., а працягнуў яго сын Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка. У тэстаменце — своеасаблівым пажаданні сваім дзецям (чацвёра сыноў) — Сіротка прасіў, каб замкавая бібліятэка не дзялілася, не расцярушвалася, а заўсёды захоўвалася ў адным месцы, паколькі "для адукаванага чалавека кніга — найлепшае ўпрыгожванне і найбольшая духоўнасць". Дзякуючы такому запавету бібліятэка захоўвалася ў замку стагоддзямі. У XVII ст. зроблены першы інвентар: бібліятэка была ў 12 раздзелаў. Да канца XVIII ст. яна налічвала каля 20 тысяч тамоў. Але вядома канфіскацыя 1772 г., калі расійскі генерал А. Бібікаў вывез з Нясвіжа 14 тысяч кніг (не лічачы карт, планаў). Усё гэтае багацце даставілі ў Санкт-Пецярбург, у Акадэмію навук, і там 36 гадоў гэта ляжала нават не разабраным, у асобных скрынках.

Калі Радзівілаўская бібліятэка пераехала ў Санкт-Пецярбург, Іван Бакмейстэр, бібліёграф Акадэміі навук, пакінуў такі запіс: "дивно, что война, везде наука весьма зловредная, а России, наоборот, весьма полезна, ибо способствует умножению государственного достояния". Такім чынам, дзякуючы вайне была сфарміравана расійская бібліятэка. Потым частка кніг трапіла ў Гельсінгфорс, тады гэта была частка Расійскай імперыі, штосьці пайшло ў Маскву, штосьці засталося ў Санкт-Пецярбургу. Так ці інакш, бібліятэка была расцярушана і страчана. У XIX ст. бібліятэку аднавілі па ініцыятыве Марыі Дароты дэ Кастэлян, але былой велічы не вярнуць. Старадрукаў, унікальных кніг XVI ст., інкунабул XV ст. ужо не было — толькі асобнікі XVIII — XIX ст. Бібліятэка займала невялікі пакой, гэта сучасная гетманаўская зала».

### КНІЖНЫЯ ГУРМАНЫ

Што ж чыталі Радзівілы? Па прадстаўленых з калекцыі «Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў» унікатах можна абмаляваць чытацкі густ Радзівілаў. Уражвае, што кнігі на шмат якіх мовах: лацінская, грэчаская, польская, руская, нямецкая, французская. Вось часопіс «Непадлегласць» («Незалежнасць»), які выходзіў у Варшаве, 3 тамы за 1830 г. Побач творы Элізы Ажэшкі, выданне 1912 г. Таксама экспануецца сучаснае выданне партрэтаў роду Радзівілаў — іконэс (ад слова «ікона» — «выява»): 165 прадстаўнікоў роду Радзівілаў. Выдадзены ў Нясвіжы ў 1758 г. Гэта факсіміле з экзэмпляра, які захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, у натуральную велічыню.

Цікавіліся Радзівілы мастацтвам: выданне па гісторыі мастацтва Еўропы ад старажытнасці да нашага часу, 1855 г., выдадзена ў Парыжы. Ёсць манаграфія па гісторыі нашай дзяржавы Мацея Любанскага (Масква, 1902 г.). Мацей Любанскі — адзін з самых дасведчаных да 1917 года гісторыкаў Беларусі. Гэта адзін з яго асноўных твораў. На польскай мове — гістарычная белетрыстыка, выдадзена ў Львове ў 1870 г. «З выгнання» — тэма паўстанняў. Яшчэ цікавы экзэмпляр — «Годы учения у императорского высочества наследника цесаревича Александра Николаевича». Тут навучальныя праграмы 1880 г. імператара. Ёсць зборнік твораў Шапэна з нотамі.

— Гэта літаратура з апошняй рэгенерацыі бібліятэкі Радзівілаў: з бібліятэкі Антонія Альбрыхта Радзівіла, XIX — XX ст., Станіслава Радзівіла — розных Радзівілаў, такім чынам, бібліятэка гістарычная, — тлумачыць загадчык аддзела старадрукаў і рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі Валерый Герасімаў. — Тут мы бачым асаблівасці: экслібрысы «Бібліятэка ардынацыі Нясвіжскай» і звычайны тыповы экслібрыс гэтай бібліятэкі пач. XX ст., на якім выява герба роду Радзівілаў: арол, шчыт і на ім тры паляўнічыя ражкі, ці трубы. Калі няма экслібрыса, то знаходзім чырвоны штамп — таксама сведчанне бібліятэкі ардынацыі Нясвіжскай. Гэты чырвоны штамп ставілі на тытульным аркушы і на 19-й старонцы. Часам гэтая асаблівасць дапамагае нам адшукаць літаратуру Радзівілаў. (Прэзідэнцкая бібліятэка ставіць штамп (інвентарны нумар) на 17-й старонцы).

Самыя старыя выданні прадстаўленай калекцыі — «Краткая немецкая грамматика, в пользу российского юношества» М. І. Агентава, выдадзеная на рускай мове ў тыпаграфіі Маскоўскага ўніверсітэта ў 1762 г.; «Арлеанская дзева» Вальтэра на французскай мове (Базэль, 1791 г.); выданні Гарацыя на лацінскай мове (Лейпцыг, 1800 г.) і Ф. Клапштока на нямецкай мове (Лейпцыг, 1800 г.).

Праект «Замкавыя бібліятэкі» мае на мэце ўзнаўляць фонды і іншых замкавых бібліятэк. Калі не рэальныя выданні, то хаця б іх алічбаваныя копіі перадаваць у замкавыя бібліятэкі, якія зараз практычна не існуюць. Супрацоўнікі аддзела старадрукаваных і рэдкіх выданняў сабралі літаратуру па бібліятэцы Ляхавіцкага замка.

— Прэзідэнцкая бібліятэка — цэнтральная для органаў улады і вядзе традыцыі ад бібліятэк Жыгімонта І, Жыгімонта ІІ, ад вялікакняскіх кніжніц, — адзначае загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Валерый Герасімаў. — Мы паставілі сабе за мэту садзейнічаць адраджэнню гістарычных бібліятэк у рэгіёнах Беларусі. Каб не было ўсё сканцэнтравана толькі ў Мінску. Пачалі з Ашмян, цяпер Ляхавічы. На выстаўцы прадставілі і літаратуру па гісторыі Ляхавіч, што ёсць у нашых фондах. У Ляхавічах таксама быў старажытны замак, некалі заснаваны адным з Хадкевічаў, і, канечне, замкавая бібліятэка. Замак — культурны цэнтр. І мы плаўна пераходзім ад Нясвіжа да Ляхавіч, потым да астатніх. Праект «Замкавыя бібліятэкі» будзе мець працяг. Большасць замкаў былі зруйнаваны, іх зараз адраджаюць — матэрыяльны бок. Наша задача — адраджаць духоўную культуру.

**Наталля СВЯТЛОВА**

**Андрэй Блінец, загадчык сектара навукова-экспазіцыйнай дзейнасці музея-запаведніка «Нясвіж»:**

— Прэстыжная прэмія «Еўропа Ностра» для Нясвіжа невыпадковая: музей-запаведнік змог знайсці агульную мову з былымі гаспадарамі каштоўнасцей, у нас узаемаразуменне і кантакт.

Эльжбэта Радзівіл (нар. 1917) — старэйшая з роду Радзівілаў. Хутка ёй споўніцца 99 гадоў. Гэта адзіны чалавек у свеце, для якой палац не музейны аб'ект, а родны дом. Дачка Альбрыхта Антонія і Дораці Паркер Дыкан Радзівіл. У 2012 яна прыязджала ў Нясвіж. У яе ёсць дзве мары: узяць удзел у паляванні на кабаноў і адзначыць 100-гадовы юбілей (21 кастрычніка 2017 года) у Нясвіжскім палацы.

Сённяшні галава роду — князь Мацей Радзівіл (нар. 1961) з Шыдлавецкай лініі, які стала пражывае ў Варшаве. Ён падтрымлівае шчыльныя кантакты з нашым музеем-запаведнікам. Усе радзівілаўскія падарункі, якія мы рэгулярна атрымліваем, ідуць праз яго. Па першай адукацыі ён філосаф, па другой — фінансіст. Менавіта Мацей Радзівіл — той каталізатар, рухавік, які можа зарганізаваць прадстаўнікоў роду на дапамогу нашаму музею-запаведніку.

Нашчадкі Лявона (Леана) Радзівіла, апошняга ардыната, — унучка Дыяна Марыя Караба Тэтаманці (нар. 1953) — жывуць у Італіі. Былі ў Нясвіжы ў 2014 г.

# «Берагіня» — гэта цэлы свет!

**Так, перафразаваўшы класіка, можна коратка распавесці пра Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня». Вось ужо дзявяты раз ён прайшоў у гарадскім пасёлку Акцябрскі, што на Гомельшчыне.**

Больш як 900 удзельнікаў з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Сербіі, Чэхіі, 120 танцавальных пар-канкурсантаў і 60 сольных выканаўцаў найскладанейшых беларускіх танцаў. Чатыры фестывальныя дні і праграма, насычаная канцэртамі і творчымі спаборніцтвамі, святамі і імправізаванымі вечарынамі. У ліку экспертаў — знаныя даследчыкі розных аспектаў традыцыйнай культуры беларусаў.

Але гэта толькі факты. Насамрэч, яны зусім не перадаюць атмасферу незвычайна гасціннага і ўтульнага фэсту «Берагіня». Тут усе госці і ўдзельнікі — амаль сваякі ці хаця б аднадумцы. Усе канкурсанты — не канкурэнты, а сябры і калегі. Бо валадарыць Яго Вялікасць Фальклор! Сёлетняе свята падтрымалі Міністэрства культуры Беларусі, Гомельскі аблвыканкам, Акцябрскі райвыканкам, Беларускі фонд культуры. Свята ўпершыню прайшло пад патранатам ЮНЕСКА і Канвенцыі па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны.


Фота Яўгена Пясецкага.

Школьніца Алена Логінка прыехала на фестываль са Столінскага раёна.



Выступае фальклорны гурт «Расіца» з Любанскага раёна.

Прывітанне ўдзельнікам і гасцям «Берагіні» даслаў Пасол Беларусі ў Францыі, Пастаянны прадстаўнік нашай краіны пры ЮНЕСКА Павел Латушка. «Фестываль «Берагіня» ўжо стаў значнай падзеяй у культурным жыцці не толькі Гомельшчыны, але і ўсёй Беларусі. Адметная рыса фестывалю — яго арыентаванасць на захаванне самабытнай народнай творчасці», — гаворыцца ў віншаванні.

І гэта сапраўды так. З самага першага фэсту яго мэтай стала выяўленне, аднаўленне, трансляцыя, папулярызацыя традыцыйнай культуры сваёй мясцовасці ў розных яе мастацкіх праявах.

— За гады існавання фестывалю з'явіліся новыя асобы, калектывы, новыя танцавальныя пары, распачаліся праекты, якія грунтуюцца на вывучэнні традыцыйнай культуры, — распавёў аўтар і кіраўнік фестывалю «Берагіня», этнахарэолаг Мікола Козенка. — На жаль, носьбіты традыцый вельмі хутка сыходзяць, а разам з імі сыходзіць частка нашай спадчыны. Фестываль «Берагіня» скіраваны на падтрымку, пераемнасць у культуры. Хочацца, каб ён меў працяг.

Адметна, што менавіта ў нашы дні, калі хада часу нібыта паскорылася, у грамадстве ўзрасла цікавасць да каранёў, вытокаў народа і яго традыцыйнай культуры.

— Кантакт паміж пакаленнямі надзвычай важны: калі песня перадаецца з вуснаў на вусны, танец — з нагі на нагу, найгрыш — з інструмента на інструмент, — падкрэсліў загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ, кандыдат культуралогіі Вячаслаў Калацэй. — Зерне, якое мы пасеялі, ужо дае добрыя ўзыходы. Людзі, якія некалі ўпершыню выйшлі на сцэну «Берагіні» як носьбіты мастацтва сваёй малой радзімы, вёскі, выраслі. Многія сталі ўжо прызнанымі спецыялістамі ў Беларусі і за мяжой.

«Берагіня», маючы нязменныя складнікі праграмы, з чарговым фэстам набывае новыя рысы, як галінкамі, «абрастае» падпраектамі і новымі творчымі спаборніцтвамі. Навінкі сёлетняга фэсту — выстаўка фотакарэспандэнта газеты «Звязда» Яўгена Пясецкага, што пазнаёміла з адметнымі старонкамі гісторыі фестывалю. Упершыню прайшоў І Рэспубліканскі конкурс музычных капэл традыцыйнага складу, упершыню адбыўся конкурс салістаў — выканаўцаў беларускіх народных традыцыйных танцаў. Перад танцорамі-салістамі стаяла няпростая задача — выканаць танцы «Жабка» (некаторыя яго элементы выконваюцца паралельна падлозе), «Чобаты», «Мікіта».

Вялікае свята для гасцей і ўдзельнікаў — гэта і вялікая адказнасць для мясцовых уладаў. Прыняць, прывітаць тысячы гасцей і на ўзроўні прадставіць сваю мясцовасць — справа не з простых. Намеснік старшыні Акцябрскага райвыканкама Ірына Намочанка кажа:

— Для жыхароў Акцябршчыны «Берагіня» — гэта яшчэ і ўнікальная магчымасць прэзентаваць свой раён, жывапісны край. Мы робім усё, каб фестываль існаваў, каб не змяняў прапіскі і ў далейшым знаходзіў новыя гарызонты творчасці.

Як любы фэст, «Берагіня» мае свае традыцыі, свае адметныя «фішкі». Гэта вялікае «Рудабельскае Купалле», што ладзіцца ў апошнюю ноч фэсту, кірмаш вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, частаванне прысмакамі, а таксама яскравы конкурс пар-выканаўцаў беларускіх побытавых танцаў. Сёлета яго ўдзельнікамі былі пары пяці ўзроставых катэгорый. Самым малодшым танцорам — 9 гадоў, а старэйшым — за 80! І калі ў танцах маладых бачыцца перадусім стаpанне, жаданне выконваць парады кіраўнікоў, то ў танцах старэйшых — досвед і характар, адметны індывідуальны стыль, што выпрацоўваўся гадамі і нават дзесяцігоддзямі.

Так, напрыклад, Уладзімір Яфімчык і Галіна Шчарбачэня з вёскі Сарачы, што на Любаншчыне, нягледзячы на тое, што ўжо на пенсіі, з задавальненнем бяруць удзел у конкурсе, больш як 20 гадоў танцуюць і з'яўляюцца артыстамі калектыву «Расіца». Адметна, што танцуюць яны менавіта так, як танцавалі іх продкі, а самі танцы перанялі ад старажылаў. А вось сямейны дуэт Ксеніі і Максіма Вяроўкі з Любані на сцэне не так даўно. Яны вучні вядомага даследчыка фальклору Сяргея Выскваркі і прызнаюцца, што вельмі любяць танцаваць, а «Берагіню» цэняць перадусім за непаўторную атмасферу.

Наступны, дзясяты, фестываль, які пройдзе ў Акцябрскім праз два гады і стане юбілейным, абяцае быць не менш яркім і захапляльным. Магчыма, да гэтага часу ён набудзе і новы статус: ужо сёння ідзе гаворка пра падрыхтоўку намінацыйнага дасье фэсту для прадстаўлення яго ў спісе нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Будзем спадзявацца на поспех прапановы беларускага боку. Чакаем новай сустрэчы са старымі сябрамі, знаёмства з удзельнікамі і гасцямі, у якіх наперадзе першая вандроўка ў гэты незвычайны свет, дзе валадарыць Фальклор.

**Марына ВЕСЯЛУХА**


У купальскім карагодзе.

# Свабодная і ўтульная

## беларуская зямля ў творах айчынных мастакоў

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуе выстаўка «Сучасная Беларусь вачыма мастакоў», прызначаная адлюстраваць, наколькі за гады незалежнасці айчыннае мастацтва змянілася і дзеля таго, каб гледачы звярнулі ўвагу на мастацкае ўспрыманне творцамі працэсаў, што адбываюцца ў краіне. Дарэчы, да адкрыцця выстаўкі прымеркавана прэзентацыя альбома «Мастацтва суверэннай Беларусі», у склад якога ўвайшло больш за сто твораў жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — творчыя дасягненні айчынных мастакоў за апошнія 25 гадоў. Альбом падрыхтаваны сумесна з выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».



Зоя Літвінава «Крэшчэнда», 2002 г.

Важнай асаблівасцю мастацкага развіцця за час незалежнасці краіны стала магчымасць творчай самарэалізацыі. Наватарскі пошук аўтараў прывёў да з’яўлення творчых ідэй, арыгінальных канцэпцый і разнастайнасці напрамкаў, жанраў, форм і індывідуальных стылістык. Сёння айчыннае мастацтва — знак якасці і ўнікальнасці, які трэба захаваць і памятаць.

### ГІСТАРЫЧНАЕ

У мастацтве суверэннай Беларусі актыўна выкарыстоўваецца тэма гістарычных падзей. Прадстаўнікі розных пакаленняў мастакоў актыўна ўзяліся за рэканструкцыю вобразаў мінулага, якія былі забытыя і несправядліва выцесненыя з гісторыі. Такія знакамітыя аўтары, як Іван Міско, Леў Гумілеўскі, Міхаіл Савіцкі, Святлана Гарбунова, Аляксандр Чыгрын, актыўна прадстаўляюць вобразы гістарычных асоб і знакавых падзей, якія фарміравалі лёс краіны раней і прывялі яе да новага этапу.

Кожная гістарычная работа, нібы легенда пра веліч герояў, ажывае на палотнах, у скульптурах. Яна нагадвае пра подзвігі, характары, эмоцыі, уласцівыя падзеям мінулых часоў, і ў той жа час, як вялікая энцыклапедыя, дакладна апісвае розныя эпізоды, пра якія, магчыма, не даводзілася задумвацца раней. Новы погляд на гісторыю больш не суправаджаецца традыцыйнай манерай выяўлення. З’яўляюцца цікавыя аўтарскія канцэпцыі адлюстравання, здольныя дапамагчы гледачу задумацца, прыняць асабістую пазіцыю наконт уяўлення падзеі альбо пэўнага вобраза.

### НАТХНЕННЕ ПРЫРОДАЙ

Прыгожыя беларускія краявіды здольныя зачапіць не адну душу. Калі звычайны чалавек глядзіць на зялёныя лугі, празрыстыя рэкі, буйныя лясы, то адчувае ўнутраны спакой, гармонію, а менавіта творцы натхняюцца веліччу прыроды.

Работы мастакоў, насычаныя прыроднымі матывамі, ператвараюць музейную залу ў бязмежную прастору, дзе на кожным кроку з’яўляюцца новыя прыгожыя месцы. Розныя перыяды і ўмовы надвор’я аўтары спрабуюць адлюстраваць, максімальна наблізіўшы сюжэт да рэальнасці: каб не толькі беларусы адчулі смак і захапленне ўласным, але і людзі з іншых краін маглі ацаніць прыцягальнасць беларускай зямлі.

На выстаўцы прадстаўлены краявіды многіх беларускіх мястэчак. Нават наведаўшы пэўныя з іх, глядач ужо трапляе ў падарожжа, дзе пра новае месца дапамагаюць даведвацца, здаецца, самыя нязначныя дробязі. Напрыклад, карціна «Стоўбцы» мастака Віталя Цвіркі дэманструе выгляд горада на пачатку атрымання краінай незалежнасці. Тут няма шматпавярховых дамоў і вялізных крам: горад запаўняюць маленькія будынкі, вакол якіх растуць дрэвы, а побач — Нёман. Вельмі чапляе карціна Міхаіла Рагалевіча «Бабіна лета». Зялёны луг і некалькі яблынь з раскіданымі галінамі, якія ўжо далі плады. Такія дрэўцы часта растуць у вясковым садзе. Адразу ж успамінаеш розныя моманты з дзяцінства, калі з раніцы выходзіш з хаты, павольна рушыш у сад, атрымліваеш асалоду ад утульнай атмасферы і пяшчотна зрываеш смачны яблык. Можаш сесці на траву альбо пайсці гуляць далей і, адкусваючы ад яблыка, адчуваеш неверагодны смак лета. Дарэчы, ёсць у экспазіцыі і традыцыйны нацюрморт, аўтарам якога з’яўляецца мастак Руслан Вашкевіч. Яго работа пад назвай «Крыху жоўтага», напэўна, — таксама ўспамін пра вясковае жыццё. Толькі што спечаны хлеб і тыя ж вялікія жоўтыя яблыкі на цёмным драўляным стале чакаюць чарговага гледача з асабістымі ўспамінамі.



Аляксандр Ксяндзоў «Выкраданне Еўропы», 1992 г.



Віталь Герасімаў «Тайна лета, якое адыходзіць», 2001 г.

Айчынныя мастакі не пазбаўляюцца традыцыйнага падыходу да адлюстравання краявідаў. Заўважна, наколькі яны беражліва адносяцца да кожнай дэталі. Беларусь для іх светлая і пяшчотная.

### АСОБЫ ДЛЯ ТВОРЦАЎ

Асоба як аснова сучаснасці, жыццядзейнасці краіны прысутнічае ў творах беларускіх аўтараў. Мастакі спрабуюць раскрываць псіхалогію сваіх герояў. Сярод вобразаў ёсць як знакамітыя ў культурным асяродку дзеячы, так і выдуманыя аўтарамі героі. Так, напрыклад, на выстаўцы дэманструецца партрэт скульптара Анатоля Анікейчыка, зроблены мастаком Маем Данцыгам. Скульптар, з задуменным выразам твару, сядзіць побач са сваёй работай і разважае над яе сэнсам. Адразу пранікаешся глыбінёй партрэта, дабрынёй чалавека, прадстаўленага на палатне. У гэтым вялікая заслуга Мая Данцыга, які перадаў жывыя эмоцыі блізкага яму героя. Мастак Леанід Дударэнка ў рабоце «Сельская настаўніца Марыя Андрэеўна Сівуха» таксама імкнецца перадаць эмоцыі, толькі жаночыя. На фоне драўляных сцен хаты жанчына ў чырвонай хустцы стаіць побач з іконай і таксама разважае, але вочы ў яе не сур’ёзныя, а больш цёплыя, пяшчотныя.

Прадстаўленыя ў экспазіцыі партрэты — як люстра душы беларускага краю. Кожны твор — сімвал роднага. Гэта заўважна і па арнаментах, якія прысутнічаюць у пэўных палотнах, і па рысах твараў, па выглядзе саміх жа герояў: блакітныя вочы, русыя валасы, працавітыя рукі.

### АБСТРАКЦЫЯ

Дыяпазон творчых пошукаў беларускіх мастакоў у экспазіцыі прадстаўлены не толькі з боку гістарызму і нацыянальнай спадчыны, прысутнічаюць і работы ў стылістыцы авангарду. Мастак Віталь Герасімаў у творы «Тайна лета, якое адыходзіць» цікава пераплятае пару года з сілуэтамі жанчын, акцэнтуючы ўвагу на іх прыгажосці і вытанчанасці. Жанчыны аголеныя, з цёмнымі вачыма, нібы апынаюцца ў калаўроце разнастайных геаметрычных форм і ўжо гатовыя знікнуць. Авангардныя работы мастачкі Зоі Літвінавай, якая ў большасці працуе над колеравым насычэннем, — своеасаблівае ўпрыгажэнне экспазіцыі. Беспрадметны жывапіс гіпнатызуе спалучэннем сімвалічных знакаў і яркіх адценняў і, як мастацкая разынка, прыцягвае ўвагу, запрашае гледача падумаць над сюжэтам, адчуць моцнае ўздзеянне абстракцыі. Элементы этнакультуры ў прадстаўленых работах арганічна ўпісваюцца ў кантэкст сучаснай творчасці.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Летапісец гарадскога жыцця

Прэзентацыя альбома народнага мастака Беларусі «Май Данцыг. Жывапіс. Графіка» адбылася 24 чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Кніга — велізарны зрэз спадчыны майстра, раскрыццё гісторыі яго добра вядомых палотнаў, што сталі хрэстаматыяй жыцця краіны, адлюстраванне асаблівасцей сучаснай творчасці. Больш за тое — панарама цэлай эпохі, яе, з аднаго боку, дакументальнае, з другога — творчае пераасэнсаванне, асабліва савецкіх рэалій і Вялікай Айчыннай вайны.

На працягу ўсяго жыцця ключавымі тэмамі для мастака былі толькі самыя актуальныя падзеі: партызанская барацьба і працоўныя будні звычайных людзей — ад шахцёраў зямлі Салігорскай да маладых навасельцаў, індустрыяльныя пейзажы падчас актыўнай домабудоўлі, партрэты пісьменнікаў-сучаснікаў, лірычныя прыродныя краявіды… Асаблівае месца на палотнах Мая Вольфавіча займае Мінск, у якім той нарадзіўся і вырас.



Фота Кастуся Дробава.

Май Данцыг раздае аўтографы.

У альбом увайшлі карціны, створаныя мэтрам беларускага жывапісу ў перыяд 1949 — 2016 гадоў. Усяго — больш за 200 ілюстрацый. Манументальнасць, незвычайныя ракурсы, сакавітасць палітры — тое, што характарызуе кожную работу.

Май Данцыг як пачынальнік «суровага стылю», рэаліст с цвёрдай пазіцыяй лічыць, што без трывалага светапогляду не можа быць асобы мастака. Ён ніколі не ідзе на кампрамісы, паказваючы рэчаіснасць толькі праўдзіва, смела яшчэ з 1960-х гадоў, калі ў мастацтве ламаліся старыя парадыгмы і на змену прыходзіла новая хваля творцаў, што адмаўляліся ад прыхарошвання сацрэалізму, шукалі новыя падыходы.

**Марыя ВОЙЦІК**

# У пошуках

## Правілы гульні парушае сцэнічнае эсэ

Спектакль можа скласціся, калі нехта жадае яго скласці. І гаворка не толькі пра стваральнікаў — аўтара тэксту і рэжысёра, які ўзяўся яго ставіць. Скласціся спектакль павінен у галовах людзей, якія прыходзяць у тэатр. А можа і не скласціся, гэта часам залежыць ад здольнасцей гуляць без правілаў. Дакладна — гэта справядліва ў дачыненні да спектакля «Гульня без правілаў і з невядомай мэтай» Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.

Правілы парушаны адпачатку. Рэжысёр Аляксандр Марчанка ўзяўся за складаную задачу — паставіць спектакль без п'есы, у якой ёсць канкрэтныя героі і выразны сюжэт. Асновай пастаноўкі стаў тэкст, створаны Аляксеем Андрэевым, галоўным рэдактарам альманаха «Маналог». Альманаху споўнілася 20 гадоў, гэтую дату вырашылі адзначыць спектаклем паводле «маналогаў» знакамітых людзей беларускай культуры, якія выказваліся пра набалелае ў асобных публікацыях. А іх героямі былі Алена Казанцава і Святлана Бень, Леанід Нарушэвіч, Віталь Баркоўскі, Адам Глобус, Руслан Вашкевіч, Віктар Капыцько, Сяргей Харэўскі і іншыя. Асобы невыпадковыя і неабыякавыя да таго, што адбываецца навокал, у тым свеце, што іх аб'ядноўвае. У гэтым спектаклі аб'яднаў нават мовай (пераклад на беларускую Альгерда Бахарэвіча). Пра гэта і сапраўды трэба казаць па-нашаму. Пра тое, у чым хочацца разабрацца: чаму і калі волат ператварыўся ў цмока, чым прусакі падобныя да нас і чаму можа мроіцца Рым часоў заняпаду? Урэшце, якім павінен быць горад, каб у ім хацелася жыць? З асобных думак-разважанняў утварыўся тэкст, які прамаўляюць са сцэны Ён і Яна. І маюць пэўную мэту.

Нас запрашаюць на квэст. Гульня (з гледачом) прадугледжвае пошук і знаходку. Паводле правілаў квэстаў, удзельнікі павінны ведаць, што шукаюць. У дадзеным выпадку задача незразумелая — таму і без правілаў. Але ж ніякага падману: нас адразу папярэдзілі пра гэта. Таму мэта ўсіх удзельнікаў ускладняецца: трэба яшчэ зразумець, чаго ж ад цябе хочуць і што ў выніку за знаходку вынесе кожны пасля спектакля.

Яна (актрыса Людміла Сідаркевіч) і Ён (Максім Брагінец) павінны запаліць гледача не столькі дзеяннем, колькі словамі. Гэтыя два героі зусім не для таго, каб уступаць у адносіны і высвятляць іх — не варта і чакаць. Яны ўмоўныя (таму і без імёнаў) персанажы, што ўвасабляюць жаночы і мужчынскі пачатак, з якога павінна ўтварацца нешта агульнае і гарманічнае. Яны ўвесь час гавораць, дзеляцца адчуваннямі, нібыта спавядаюцца адзін аднаму, вядуць сяброўскую размову ці выпускаюць на волю шчырасць, вартую блізкіх людзей, паміж якімі няма непаразуменняў. Яны ўжо ўсё ведаюць, застаецца сказаць, каб пачулі і адгукнуліся іншыя.

Чаму хараство даецца нам балюча? Няўжо мастацтва толькі для інтэр'ера? А Гасподзь чуе толькі дасканалых?.. Ці ёсць сэнс песціць сваё цела, калі потым яго пакладуць у труну? І што тады мае сэнс у гэтым жыцці?.. Шэраг пытанняў хочацца прадоўжыць ужо ад сябе — гульня пайшла.

На сцэне ў адсутнасці сюжэта амаль нічога не абдываецца, калі не лічыць асобных і зусім не рэзкіх рухаў герояў: Яна сядае ў белую калыску (ці не такая была ў маленстве ў мяне?). Ён круціць кола, падобнае на рухавік. Іх акружаюць кнігі, з якіх часам нібыта бяруцца цытаты (вось бы яшчэ ведаць, у каго іх вычыталі?). Кнігі — гэта яшчэ і частка мастацкага рашэння (аўтар — мастачка Ганна Балаш): з імі артысты ўзаемадзейнічаюць, нібыта размаўляюць, гуляюць. Складзеныя ў стосы, кнігі дапамагаюць трансфармаваць сцэнічную прастору, робяць яе пластычнай, гнуткай, падатлівай. Гэта яшчэ адзін дзеючы персанаж, які задае тон гаворкам двух першых. І зусім не факт, што менавіта яны галоўныя. Чаму не яна?

І з героямі-людзьмі нічога фактычна не адбываецца за час спектакля. Яны як прыходзяць на сцэну адразу з разумнымі думкамі, так і сыходзяць з імі напрыканцы. А ў прасторы штосьці ўвесь час, хоць і павольна, мяняецца. Яна жыве. Трапятанне фіранкі выдае прысутнасць кагосьці нябачнага, ён назірае збоку за ўсім, што адбываецца ў гэтай прасторы. Яна нібыта рухаецца — амаль незаўважна. Неяк так… Па-беларуску. Пры тым, што поўная ілюзія, што ўсё як і было напачатку. А потым, яшчэ праз колькі асобных маналогаў, прыходзіць разуменне, што і Ён, і Яна разам увасабляюць супольнасць людзей, якія належаць адной культурнай прасторы. Яны яе ствараюць і напаўняюць сэнсам. Яна яднае тых, хто ёй належыць сёння — у розных абліччах і з рознымі меркаваннямі. Але гэтых сённяшніх яна яднае з тымі, хто быў «да» і будзе «пасля».

Повязь часоў і пакаленняў забяспечвае голас, які спачатку даносіцца з-за сцэны, потым артыст Дзмітрый Лук'янчык з'яўляецца на вочы і назірае. Часам ёсць адчуванне, што хоча ўмяшацца, — і робіць гэта праз мелодыю, што злучае з'явы розныя. Фальклорны стыль звяртае да каранёў як асновы ўсяго — і таго, што адбываецца зараз.

Гэта пастаноўка, якую можна проста слухаць, заплюшчыўшы вочы. Усё адно, што нам услых чытаюць эсэ, з якога паўстае вобраз нашага сучасніка, які сумняваецца і разважае. Думае і шукае ўваход у будучыню не толькі для сябе, а для ўсіх, каго лічым блізкім сабе паводле паходжання з адной культурнай прасторы. Беларускай. Маёй. Нашай.

Знайшла. Ці тое, што мелі на мэце аўтары квэсту?

Знайсці не так проста: прадзіраццa скрозь высокую канцэнтрацыю думак можна, толькі кіруючыся прыроднай цярплівасцю. Бессюжэтны спектакль прапаноўвае стварыць сюжэт кожнаму свой, запрасіць у яго ўсіх родных і блізкіх, размеркаваць ролі і паспрачацца пра тое, што мы ёсць як народ і паводле якіх правілаў існуем (як робім гэта на кухні). Пры неабходнасці разыграць драму (умовы ёсць). Ці ўсміхнуцца самім сабе.

«Гульня без правілаў…» — без вонкавага драйву, які растармошвае, выводзіць з такога звыклага для нас сну (некаторыя могуць практыкаваць ліТаральна падчас спектакля). Драйв можа быць унутраны, калі «думаеш думку», і яна захапляе, і тады прачынаешся надоўга, таму што пачынаецца мысліцельны працэс. Хацелася б яшчэ пазнаваць у гэты момант аўтараў думак, якія сугучны тваім. Бачыць ці адчуваць іх не толькі праз Яе ці Яго. Але калі гэта квэст, то кожны раз ён можа быць крыху іншым і ў нечым падвяргацца зменам, праходзіць больш дасканала. Зрэшты, гэта наўпрост залежыць ад жадання мысліць тых, хто бярэ ўдзел у інтэлектуальнай гульні з розных бакоў.



*Сцэна са спектакля «Гульня без правілаў і з невядомай мэтай».*

**Ларыса ЦІМОШЫК**

Вобраз Беларусі на тэатральнай сцэне — падстава для гледачоў, якія ў тэатр прыходзяць за адказамі на жыццёвыя пытанні, імкнуцца лепш зразумець сябе. Тэма самавызначэння асабліва ярка выявілася на айчыннай сцэне напрыканцы 80-х, у 90-я гады мінулага стагоддзя. Яшчэ нават і не было незалежнай Беларусі, але мара ўжо жыла. І гэта зафіксаваў тэатр. Таму ці не самым гучным і запатрабаваным у гледачоў не адно дзесяцігоддзе стаў спектакль «Тутэйшыя», пастаўлены Мікалаем Пінігіным поводле Я. Купалы. Таксама Купалава «Адвечная песня» знайшла сцэнічнае ўвасабленне ў выглядзе мюзікла, а цяпер спектакль адноўлены і вярнуўся ў афішу Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Ізноў людзі жадаюць гаварыць пра гэта. Тэатры адчуваюць і рэагуюць. Таму што нават у незалежным тэатры «Ч» з'явіцца спектакль «Дзяды» паводле Адама Міцкевіча. Да Міцкевіча звяртаецца Купалаўскі тэатр у пастаноўцы «Пан Тадэвуш». Калі хто шукае, той знойдзе такія спектаклі ў розных беларускіх тэатрах — некаторыя толькі з'явіліся, а некаторыя ідуць ужо некалькі гадоў. Звярнуць увагу хочацца на тое, што пакінулі нам пасля сябе асобы, якія вызначыліся са сваім шляхам — ён быў яркі, а святло яшчэ ідзе і дапамагае ў пошуку

### …ДУШЫ

Асоба — пісьменнік Максім Гарэцкі. Спектакль Мікалая Пінігіна «Дзве душы» Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. Спектакль выйшаў у красавіку, а напал спрэчак вакол пастаноўкі дагэтуль не згасае. І ёсць з-за чаго спрачацца: менавіта тое, як аповесць выглядае на сцэне, што ў ёй «дапрацавана» сучаснымі тэатральнымі суаўтарамі. Але не выклікае спрэчак сама думка Гарэцкага, тое, як ён вызначыў асаблівасць беларускага светаўспрымання. Вобраз раздвоенасці душы быў знойдзены пісьменнікам як адказ на ўсе пытанні наконт самаідэнтыфікацыі беларускага народа.

Ваганне, якое раздзірала душу Абдзіраловіча, не прыйшло да пэўнасці і не завяршылася ў творы Гарэцкага. Яно працягвалася далей, усё мінулае стагоддзе, да 1990-х гадоў, калі слова «беларусы» стала асэнсоўвацца наноў. Але адчуванне, што дзве душы, уласцівыя беларусам, нікуды не падзеліся, часам узнікае і цяпер. Наша «двудушнасць» мае эпічны выгляд у тэатры. Нам, як народу, наогул уласцівы эпічны падыход да вырашэння жыццёвых пытанняў — з маштабам, з пафасам. Значыць, мы ўжо падышлі да адчування сваёй

### …ГОДНАСЦІ

У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Горкага пра нацыянальную годнасць гавораць ужо некалькі гадоў. Да апошняга часу яе вымяралі па асобе акцёра Расціслава Янкоўскага, які выконваў ролю Караля Станіслава Радзівіла ў спектаклі «Пане Каханку» (пастаноўка Сяргея Кавальчыка паводле п'есы Андрэя Курэйчыка). Гэта была яго роля: прыродная шляхетнасць, высакароднасць, уменне паказаць псіхалогію дапамагалі паказаць вобраз гістарычнай асобы не згодна з шаблонам. У спектаклі персанаж Пане Каханку, які ў жыцці быў вялікім арыгіналам, паказаны чалавекам, які перажывае высокія пачуцці і спакусы, ён здаецца грубіянам, з якім немагчыма дамовіцца. Але таму і немагчыма — ён мае гонар. Герой адчувае гонар не толькі за сябе і свой род, але і за краіну, хоць разумее: яе існаванне пад пагрозай. Не толькі з-за недахопу грошай — ёсць пагрозы больш істотныя… Спектакль скіроўвае да пачатку XVIII стагоддзя — перыяду падзелаў Рэчы Паспалітай. Паводле драматургічнай версіі, ён мог стрымаць гэтыя працэс, але ўхіліўся. У мастацкім творы, у прынцыпе, дапушчальныя падобныя падыходы, асабліва калі пастаноўка не дакладна гістарычная. А яна хутчэй метафарычная. Пане Каханку (той, што ў тэатры) хацеў навучыць беларусаў адрывацца ад зямлі, каб у іх было адчуванне палёту, што дало б магчымасць паглядзець на ўсё зверху і лепш разгледзець свой шлях. Вобраз Пане Каханку ў выкананні артыста Янкоўскага быў асаблівы нейкай рамантычнасцю. Але гэтая роля застаецца за Іванам Мацкевічам — у яго зусім іншы персанаж: час рашучых асоб?..

### …КАРАНЁЎ

Хто я? Наша пытанне. Колькі ні шукаем адказ (часам здаецца, што ўжо знайшлі), а яно зноў вяртаецца да нас, каб загучаць яшчэ больш настойліва — нават у балеце. Яно засталося ў спадчыну ад кампазітара Сяргея Картэса. Спектакль з такой назвай ёсць у афішы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі. «Хто я?» — гэта версія балета «Апошні інка», якую прапанавалі харэографы-пастаноўшчыкі народны артыст Беларусі Канстанцін Кузняцоў і заслужаная артыстка Беларусі Юлія Дзятко.

Першапачаткова балет меў іншую нацыянальную афарбоўку: Сяргей Картэс звярнуўся ў нейкім сэнсе да ўласных каранёў, да гісторыі іншай культуры, якая яму асабіста не была чужой (бацька быў чылійцам). Але сам факт гэтага пошуку, звароту да далёкіх продкаў, да мінуўшчыны невыпадкова актуальны для Беларусі. Што і адчулі пастаноўшчыкі. Яны звярнуліся да пытанняў чалавечага быцця, зрабілі ўмоўную цывілізацыю, дзе ўсе выглядаюць аднолькава, носяць маскі, бо тут не патрэбны індывідуальнасці, але адзін з герояў настойліва ідзе да ўласнай свабоды і хоча пазбавіцца ўмоўнай маскі. «Хто я?» — гэта і назва балета, і яго асноўны змест, які робіць твор прыцягальным. Разважанні пра чалавечую сутнасць, суадносіны калектыўнага і індывідуальнага, пошукі свайго шляху да ўнутранай свабоды і свабоды самавыяўлення — стрыжань балета. Гэта зададзена найперш музыкай Сяргея Картэса — экспрэсіўнай, эмацыянальнай, драматычнай, глыбокай. Музыка развагі асэнсавання… Яе можна слухаць у тэатры.

**Марыя АСІПЕНКА**

# З адказнасцю летапісцаў




Золата, а не людзі, самы лепшы нацыянальны набытак: іх не трэба заклікаць працаваць — яны прагнуць гэтага нават тады, калі не патрабуюць, хочуць здымаць кіно і гатовыя рабіць лепш, чым тое, што ад іх чакаюць… З такімі думкамі сыходзіла пасля сустрэчы на студыі дакументальнага кіно «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Узмацнілася захапленне, якое склалася ад іх цудоўных дакументальных фільмаў, многія з якіх прымусілі паважаць і цікавіцца беларускім кіно апошні час, калі шмат хто перастаў цікавіцца: нагод, калі фільмы Нацыянальнай кінастудыі (галоўнай вытворчай арганізацыі краіны ў гэтым відзе мастацтва) выклікалі розгалас, не так шмат. Ёсць прычыны аб'ектыўныя, адна з іх — рэканструкцыя студыі, вялікіх праектаў няма. Кінадакументалістыка давала падставы казаць, што жыве кіно ў Беларусі. Сведчанне — безліч прызоў на міжнародных кінафестывалях па ўсім свеце за кінадакументалістыку, якая неадночы паказвала, што ёсць Беларусь за мяжой.

І цяпер галоўны лейтматыў сустрэчы: як наладзіць і палепшыць працу. Таму што іх справа — фіксаваць жыццё, весці дакументальную гісторыю краіны, якая праз нейкі час стане той самай хронікай, паводле якой будуць ідэнтыфікаваць наш час. Нездарма ж за савецкім часам, калі арганізоўвалі студыю, ёй далі такую назву. А для летапісцаў перапынак у часе — усё адно што згубленая старонка з падручніка гісторыі...

**Рэжысёр Мікалай Князеў:**

— Што такое дакументальнае кіно, з якога нарадзілася ўласна кіно? Гэта пагружэнне ў рэчаіснасць і глыбокае пагружэнне ў асобу чалавека. Часам нас імкнуцца аднымі меркамі мераць з тэлевізійным кіно. Магчыма, гэта з-за неразумення сутнасці, што ёсць розныя віды і жанры кіно. Гэта як розніца паміж пачуццямі і эмоцыямі — нібыта пра адно, але зусім розныя паняцці. Так, ёсць розніца паміж дакументальным кіно і тэлевізійным, таму немагчыма нават думаць, што адно можа замяніць другое. Многія рэжысёры прыходзілі ў вялікае ігравое кіно з кінадакументалістыкі — яна ім давала больш глыбокі погляд на рэчы. Напрыклад, Марцін Скарсэзэ — зорка кіно, але заўсёды заставаўся дакументалістам… Няўжо нам не трэба глыбока пагружацца ў рэчаіснасць і ў чалавека, каб разумець, якія ў яго адносіны са светам?

**Мастацкі кіраўнік студыі «Летапіс», член Еўрапейскай кінаакадэміі Віктар Аслюк:**

— Размова пра дакументальнае кіно ў Беларусі наспела даўно. Таму што альтэрнатывы ў беларускім нацыянальным кіно з боку ігравога кіно няма, Прынамсі, цяпер. Нацыянальная студыя «Беларусьфільм» — адна з найбуйнейшых у Еўропе — выпускае некалькі серыялаў і адзінкі поўнаметражных фільмаў. Мы разумеем, што ёсць аб'ектыўныя прычыны, зацягнулася рэканструкцыя. І што тады нацыянальнае кіно ў Беларусі, калі не здымаць дакументальнае кіно? Гэта рэальны шлях заставацца кінавытворчай краінай.

У такой краіне, як наша, можна выпускаць дзясяткі, нават сотні дакументальных фільмаў у год. Існуюць краіны, дзе дакументальнае кіно асноўнае: Данія, Фінляндыя. Галандыя вядомая ў свеце па дакументальным кіно — і гэта ў іх нацыянальная кінематаграфія, пры тым, што выпускаецца дастаткова ігравых фільмаў. Але гучаць іх дакументальныя фільмы.

У 90-я гады мы радаваліся, што захавалі студыю, калі ў суседзяў усё «ляжала». На «Залатым Віцязі» ганарыліся поспехамі: раней цэлы цягнік прызоў везлі, дык яшчэ ж не ўсе фільмы іх атрымлівалі. У нас было па 80 фільмаў у год, няхай і кароткія. Калісьці Ірына Дзям'янава падымала пытанне, што дакументальнае кіно ў свеце сёння існуе ў буйных формах. Нават шмат якія фестывалі не бяруць кароткаметражныя фільмы (да 30 — 40 хвілін), таму што гэта форма для студэнтаў. А на шмат якіх конкурсах кароткаметражнымі лічацца фільмы па 59 хвілін. У нас 52 хвіліны — гэта поўны метр. Але апошні час мы ў асноўным здымалі фільмы па 12.59 хвілін. Гэта фільмы, мала падобныя на дакументальнае кіно па сутнасці. Так, фільмы патрэбны розныя: да юбілеяў і дат, утылітарныя і г. д. Але наша асноўная задача — паказваць людзей на сучасным этапе, адлюстроўваць тое, што іх хвалюе, што яны перажываюць. У кіно заўсёды ёсць аўтар са сваім поглядам, з жаданнем выказацца на нейкую тэму, якая ўсхвалявала. Без жыццёвай драмы (часам крайняй драмы) не толькі дакументальнае кіно, а наогул кіно не магчымае. І калі гэта не будзем рабіць мы (так, як бачым), то зробіць іншая — са свайго пункту гледжання.

**Рэжысёр Міхаіл Жданоўскі:**

— Раней у кінадакументалістыцы здымаліся і праблемныя фільмы, і крытычнага характару, публіцыстыка, іншыя жанры. Букет магчымасцей у дакументальным кіно, як гэта рэалізаваць. Узнімаліся самыя розныя тэмы, імгненна адгукаліся на вострыя праблемы сённяшняга дня. Людзі, якія здымаюць дакументальнае кіно, — гэта яшчэ і мысляры. Яны не проста адлюстроўваюць, але асэнсоўваюць рэчаіснасць. А потым яшчэ і пакутуюць, што не ўсё здолелі рэалізаваць. А мы амаль не здымаем цяпер жыццё. Вельмі хочам здымаць. У апошнія паўгода студыя перажывае няпросты час, мы гэта разумеем. Але канстытуцыя нашай краіны дае нам права на прафесію, права на працу (не маючы працы, мы не маем пенсіі). Але ёсць у нашым асяродку нават такія людзі, што апынуліся «па-за штатам» пасля скарачэння і цярпліва чакаюць, калі здымачны працэс пойдзе — яны гатовыя далучацца па дамове. Захапляюся сваімі калегамі.

**Рэдактар студыі «Летапіс» Уладзімір Мароз:**

— Я ўдзячны лёсу за 35 гадоў працы ў кінадакументалістыцы. Кожны кадр, які мы знялі сёння, заўтра ўжо гісторыя. Няважна, якое гэта кіно: ці на заказ, ці асабістае. А што, сёння гісторыя краіне непатрэбна? Асабліва цяпер, калі гавораць пра культурную бяспеку. Калі не будзе нашых фільмаў, экраны будуць запаўняцца нечым іншым. Калі паўгода гісторыі няма, мы нічога не робім, потым ніхто за гэты час не знойдзе ніводнага кадра. Гавораць пра тэлевізійныя праграмы, але нават калі Уладзімір Бокун на тэлебачанні штосьці робіць, то звяртаецца да кадраў кінадакументалістыкі розных гадоў. Другі аспект — колькасны. Каб гаварыць пра паўнавартасны працэс, трэба ў год не менш як 30 адзінак — і будуць фільмы патрэбныя, аўтарскія і фестывальныя. Калі ёсць колькасць, тады з яе вырастаюць плыні, што дазваляе гаварыць: дакументальнае кіно існуе. А ў стратэгіі развіцця кінематографа на гэты год было прадугледжана 35 фільмаў, на наступны ўжо больш. Значыць, дзяржава мае зацікаўленасць. Дакументальнае кіно (як і кіно ўвогуле) — адзін са складнікаў іміджу дзяржавы.

**Дырэктар студыі «Летапіс» Аксана Эйхард:**

— Дзяржава разумее важнасць дакументальнага кіно і кінематаграфіі. Таму з'явілася стратэгія развіцця кінематаграфіі на 2015 — 20 гг. Паводле яе, 35 фільмаў запланавана ў 16-м годзе, 40 — у 17-м, 45 — у 18-м, 50 — у 19-м, 60 — у 20-м. Бюджэт прадугледжвае сродкі (сёлета гаворка пра суму ў 68 млрд рублёў). Кінематаграфія можа іх атрымаць на падставе правядзення рэспубліканскага конкурсу. Першы конкурс прайшоў у 2011 годзе, затым у 12-м: мы падалі 36 тэм, выбірала камісія. Далей 13-ты год, 14-ты — конкурс не праводзіўся. У 15-м годзе конкурс абвясцілі на зададзеныя тэмы: Галіна Адамовіч зняла «Беларусь. Дакументальная гісторыя» і Віктар Аслюк «Педагагічную паэму», гэта поўнаметражныя карціны. Восенню — тэматычныя: Чарнобыль, Трасцянец, адна тэма стала тэлевізійным праектам.

У адсутнасці конкурсу ўзніклі фільмы па 12 хвілін 59 секунд, таму што на конкурс падаюцца фільмы хронаметражом ад 13 хвілін. Летась рабілі некалькі такіх фільмаў, а потым у верасні раптам мы запусцілі 12 ці 13 фільмаў адразу. Напружана працавалі (была нераўнамерная загрузка цэхаў). І цяпер адпачываем… Сёлета конкурс пакуль яшчэ не абвешчаны.


*З фільма «Беларусь. Дакументальная гісторыя».*

**Віктар Аслюк:**

— Мы разумеем, што вярнуцца ў Савецкі Саюз нельга. Але магчымая гнуткая сістэма. Можна вяртуцца да тэматычных планаў, дзе быў бы і конкурс, працаваў бы мастацкі савет, кіраўніцтва нашай студыі таксама вызначала б гэтую палітыку. Трэба рабіць нестандартныя крокі. Распаўсюджаная цяпер ка-прадукцыя ў кіно. Але пры існуючай сістэме з боку магчымых партнёраў у наш адрас гучаць умовы: спачатку перамажыце ў конкурсе, тады мы дадзім грошы на кінавытворчасць… Цікавы ўкраінскі варыянт: яны даюць 50 працэнтаў сродкаў пры ўмове, што ты знойдзеш грошы на Захадзе ці на Усходзе. Кожны рэжысёр, хто мае там гэтую прафесію, удзельнічае нароўні з іншымі ў конкурсе і атрымлівае грошы. Украіна, вайна ідзе, а там грошы выдзяляюць на кіно, у іх запушчана шмат фільмаў, конкурс праводзіцца 2 разы на год.

**Рэжысёр Галіна Адамовіч:**

— Украіна не проста так у вайну выдаткоўвае грошы на вытворчасць кіно: яны зразумелі, што калі не будуць здымаць сваю гісторыю ў сваёй версіі, то будуць глядзець расійскую ці амерыканскую.

**Віктар Аслюк:**

— Азербайджан, не самая вялікая краіна, але мае нафту. Міністэрства культуры там выдаткоўвае грошы перш за ўсё на аўтарскае фестывальнае кіно, кіно нацыянальнае. На тое, што не можа з'явіцца без першапачатковай падтрымкі, а яно патрэбнае. Але не выдаткоўвае сродкі на камерцыйнае кіно — таму што яно можа і павінна зарабляць само. Мяне ўразіла, што асноўныя грошы ў іх даюцца на імідж — фільмы, якія будуць перш за ўсё прадстаўляць краіну. Азербайджан існуе як кінематаграфічная краіна.

Ці Кыргызстан — краіна кароткаметражнага фільма, мае такі фестываль. Кыргызстан, не самая багатая краіна, выпускае дзясяткі кароткаметражных дакументальных і ігравых фільмаў. Яны выхоўваюць новых рэжысёраў, якія сябе рэалізуюць у кароткай форме, эксперыментуюць.

А давайце падумаем, як падтрымаць нашу моладзь? Для яе важнае асяроддзе, студыйнасць — каб было куды прыходзіць і глядзець, як ідзе здымачны працэс, вучыцца на фільмах калег, што таксама важна. А потым на мове кіно яны будуць размаўляць са сваімі аднагодкамі. Гэта дзяржаўная справа. Таму дзяржаўная студыя павінна падтрымлівацца. У нас, на жаль, няма іншых магчымасцей рабіць кіно: фондаў ці мецэнатаў, зацікаўленых гэтым відам мастацтва.

**Аксана Эйхарт:**

— Таму можна ў нашых умовах наладзіць працу іншым чынам: на студыі складаецца тэматычны план, мы зацвярджаем яго на мастацкім савеце, далей яго абмяркоўваюць у Міністэрстве культуры, зацвярджаюць і ажыццяўляецца яго мэтавае фінасаванне. Далей мы імкнёмся вяртаць павагу да мастацкага савета студыі «Летапіс»: ён абмяркоўвае заяўкі, каб гэта адбывалася на студыі па ўзгадненні з Міністэрствам культуры. Мы прапанавалі аднавіць конкурс сцэнарыяў на кінастудыі.

**Віктар Аслюк:**

— Калі мы прапануўваем да нечага вярнуцца, то толькі таму, што ведаем: гэта шлях, які прыводзіў да вынікаў: на студыі здымаліся фільмы і за іх было не сорамна.

Ларыса ЦІМОШЫК

# Станцаваць з ценямі ў абдымках прыроды

## Адна з самых заўважных выставак пад адкрытым небам

**Павялічаныя, у рост чалавека, арт-аб'екты з дрэва, пластыку і металу ўпрыгожылі востраў Камсамольцаў у Парку Перамогі. Гэта традыцыйныя ўжо «Арт-выспы». Асновамі ландшафтнага і вулічнага мастацтва падзяліліся амаль два дзясяткі мастакоў, скульптараў, дызайнераў. Пятнаццаць аб'ектаў сталі квінтэсэнцыяй абсалютна вольнага палёту фантазіі. І проста ўпрыгожаннем горада.**

Словам, усё гэта варта ўбачыць хоць бы для таго, каб паразважаць, а не толькі сфатаграфавацца на фоне. Каманда аўтараў выдалася сапраўды таленавітай. Гэтыя людзі ніколі не стараюць нешта проста так, для забавы. Яны, мастакі, кажуць, хай праз гумар і прастату, пра тэмы сур'ёзныя. Невыпадкова намеснік старшыні Саюза беларускіх мастакоў Леанід Хобатаў адзначаў на адкрыцці праекта, што пляцоўка арт-выспаў — гэта не толькі месца для сузірання, а прастора, якая ставіць сур'ёзныя пытанні як пластыкі і стылістыкі творчай мовы, так і чалавечага існавання.

Адзін з удзельнікаў, скульптар Іван Арціновіч, параўнаў мінскія «Арт-выспы» са швейцарскім опэн-эйрам, адным з самых буйных у Еўропе, дзе скульптура таксама надзвычай удала інтэгравалася ў архітэктурнае і прыроднае асяроддзе.

Калі ўяўляць «Арт-выспы» як пэўны маршрут, то першым кідаецца ў вочы выназходніцтва ад спонсараў праекта — «Альфаветразь» ад Альфа-Банка. Лаканічная чырвоная лодка сімвалізуе ўпэўнены шлях да мары. Непадалёк — самая высокая кампазіцыя «Абдымкі» Васіля Цімашова і Паліны Піраговай. Аўтары рэкамендуюць не проста глядзець збоку, а заходзіць унутр інсталяцыі, што нагадвае фантастычнага слана з далёкай будучыні, каб з'яднацца з прыродным пачаткам.

Таццяна Гомза, прадстаўнік трэш-арту, сканструявала ці то логавішча павука, ці то фрагмент містычнага сну. На галінах дрэў — камякі хаатычна скручанай паперы, аплецены скотчам і змацаваныя ніткамі, а ўнізе — белае крэсла. Відаць, для самага адважнага наведвальніка.

Дзмітрый Сурскі стварыў павялічаны ў разы трохколавы ровар з драўляных дошак, які нагадвае вялікую, але абсалютна бясшкодную гаўбіцу. Ці атракцыён для малых і дарослых.

Максім Пятруль распавёў пра школьнае «Прыродазнаўства» на мове скульптурных «аплікацый». Побач з сапраўднымі кустамі і ялінамі пасадзіў свае, як бы выразаныя дзіцячай рукой з паперы, дрэвы-знакі на слупах-ножках. Іншыя знакі, тыпу дарожных, толькі з тэкстам і ў выглядзе гульні-квэсту ад Канстанціна Селіханава, таксама ўпрыгожылі адну з паркавых алей.

Абаяльным у прастаце, колеры і футурыстычнасці выйшаў «Партал» Віктара Старухіна. Жэрдка, па тыпу тых, на якіх падцягваюцца ў дварах, «абрасла» каменьчыкамі-лакатарамі рознай велічыні: пропуск ці то ў космас, ці то на глыбінь падсвядомасці. Ігар Лявонцьеў абраў шлях прасцей і павялічыў звычайную канцылярскую кнопку.

Аляксей Сарокін прапанаваў станцаваць з каляровымі ценямі, а Віктар Копач пазначыў цыркуляцыю ў прыродзе ў выглядзе кампазіцыі з зігзагападобных кветкавых формаў.

Аляксандр Сакалоў і Іван Арціновіч удала раскрыццілі тэму адзіноты ў натоўпе, чалавечай індывідуальнасці ў арт-аб'екце «Іншы». Асаблівасцю цяперашніх арт-выспаў з'яўляецца іх міжнародны фармат. Тэме адносін людзей прысвяціў сваю скульптуру «Горад» запрошаны польскі мастак Дулько Ремігіуш.

Арганізатарамі выстаўкі пад адкрытым небам стаў Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

**Марыя ВОЙЦІК, фота аўтара**



*Аляксей Сарокін «Цені, што танцуюць».*



*Дзмітрый Сурскі «Ровар».*

## Культурны ракурс



Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку была пабудавана паміж 1152 і 1161 гадамі па распараджэнні ігуменні Спаса-Праабражэнскага манастыра Еўфрасінні Полацкай. Гэты храм — тварэнне полацкага дойліда Іаана. Паводле задумы дойліда, царква павінна была стаць унікальнай, адзінай у сваім родзе. І гэта ўдалося.

Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку пабудавана пад уплывам розных архітэктурных школ. На другім паверсе размешчаны хоры, да якіх вядзе вузкая лесвіца. Па абодва бакі хораў — дзве невялікія крыжападобныя келлі. У адной з іх жыла Еўфрасіння Полацкая, у другой — адна з яе сваячак, таксама пастрыжаная ў манастве. Асаблівасцю Спаскай царквы з'яўляецца вертыкалізм яе кампазіцыі і накіраванасць храма ўвышыню. Існуе меркаванне, што першапачаткова Спаса-Праабражэнская царква будавалася як храм-пахавальня. Менавіта гэтым можна растлумачыць малы аб'ём царквы.

Знешні выгляд Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку быў моцна зменены наступнымі перабудовамі, аднак яны не закранулі старажытных муроў. У выніку сёння храм — адзіны помнік гісторыі і культуры Полацкай зямлі, які дайшоў да нас з XII стагоддзя.

**Ірына КРУКАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* ***lim_new@mail.ru*** *з пазнакай* ***«Культурны ракурс»*** *— лепшыя будуць апублікаваны на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**ЛіМ**
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 30.06.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1648.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2583

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686